# ОРГАНІЗУЙЦЕ ІХ!

Піонэры! Вы носіце чырвоны гальштук! Вы пішаце ў сваім клюбе лёзунг: *„Піонэры — перадавы атрад усіх дзяцей СССР“*. А ці ведаеце вы, піонэры, як жывуць навакола вас дзеці-непіонэры? Ці сябруеце вы з неорганізаванымі дзецьмі? Што вы зрабілі для таго, каб навучыць неорганізаваных дзяцей разумна і весела праводзіць свой час, заміж таго, каб бяз толку праводзіць яго на вуліцы?

Усё гэта, пакуль што, у нашых атрадах праводзіцца кепска. Калі к нам у клюб уваходзіць хлопчык бяз гальштука, яго сустракаюць з крыкам: „Ты не піонэр. Кацісь на вуліцу! Няма чаго тут табе вачыма лыпаць!“

Там, дзе піонэр не зьвяртае ніякай увагі на акаляючых дзяцей, неорганізаваныя дзеці самі ўтвараюць свае групы. Сіла кіпіць-бурапеніць у гэтых дзетак, ня ведаюць яны куды яе прылажыць. І калі піонэры ня хочуць з імі знацца— неорганізаваныя дзеці ўтвараюць розныя групы пад рознымі назвамі.

Дзеці прыдумліваюць адзін другому розныя мянушкі, б'юцца і г. д. Увесь свой розум, усю сваю сілу, спрытнасьць, сьцямлівасьць дзеці пачынаюць траціць на такія ўчынкі, за якія па галоўцы не пагладзяць.

Піонэры! Прыглядзьцеся ўважлівей к тым дзецям, якія жывуць навакол вас, уведайце ўсе іх думкі, уведайце, чаго яны хочуць. Пакажэце гэтым неорганізаваным дзецям, што бяз боек і хуліганства можна цікава, забаўна і весела праводзіць час.

Няхай не дарэмна піонэраў называюць перадавым атрадам усяе дзетвары. Трэба клікаць і весьці дзетвару к сьвету, к ведам. Трэба зрабіць так, каб усе неорганізаваныя дзеці бачылі ў піонэрах сваіх лепшых сяброў і таварышоў.

Няма чаго задзіраць угору нос, калі ўбачыш дзяцей, якія гуляюць у карты. Няма чаго звысака цадзіць праз зубы: „хуліганы“! Сумейце зрабіць з хулігана чалавека! Кепскі той піонэр, які лічыць, што раз ён ведае свае законы і звычаі і акуратна наведвае зборы атраду, дык яму можна праз пальцы глядзець на неорганізаваных і абыходзіць іх за вярсту.

Няхай кожнае зьвяно, кожны піонэр уведаюць, дзе і як праводзяць вольны час неорганізаваныя дзеці. У іх заўсёды ёсьць свае месцы.

Месца гульні ў карты, месцы для купаньня,—усё гэта павінны ведаць піонэры. Адсюль трэба зваць дзяцей на нашы зборы, на нашы піонэрскія вечары, ранішнікі, гурткі пры нашых клюбах. Толькі ня сьмейцеся над неорганізаванымі, не завеце іх „хуліганамі“.

У першую чаргу заваюйце на свой бок павадыроў неорганізаваных дзяцей. Праз павадыроў прыцягнеце да сябе і усіх астатніх.

Не забывайце гэтых дзяцей на зборах. Дайце ім прачытаць цікавую кніжку.

Праводзьце з імі кароткія, маленькі гутаркі аб барацьбе працоўных за лепшае жыцьцё. Зацікаўце іх сваёй працай.

Не зважайце на тое, што асобныя дзеці ня зразу звыкнуцца з гэтымі гутаркамі. Успомніце, што і вы самі не адразу сталі піонэрамі.

**С. В.**

## ЗЬМЕСТ

**Пятая гадавіна піонэрорганізацыі.** Прывітаньні. Пяць гадоў—арт. *М. Адзінці.* Вучэцеся жыць і працаваць—арт. *Баліцкага.* Першы дзятком—апавяд. *А. Якімовіча.* Першыя дні (успаміны)—*Б. Рома.* Ці ведаеце вы, што такое посах? (малюнкі з мінулага)—*І. Богіна.* Замест аднага—29—нарыс *І. Ланіна.* Рыхталіся да 1-га мая (успаміны)—*Б. Рэнці.*

**Міжнародны дзіцячы тыдзень.** Міжнародны дзіцячы тыдзень. Работа кітайскіх атрадаў ЮП. Маленькі сын Фана—апавяданьне. Значок Леніна—апавяд. *Г. Свэдж.* Два моманты—нарыс *Я. Цэхоўскага.*

**Творчасьць піонэраў.** Вясна—апав. *Бяляноўскага.* Наша сіла—ніва ды машыны—апав. *В. Шушкевіч.* Поп вораг—апав. *Мышкоўскага.* Песьня—верш *Ю. Таўбіна.* За кнігай—верш *К. Шавеля.* Вясновыя ночы—верш *М. Багуна.* Я спаткаў вясну—верш *А. Розна.*

**Наша жыцьцё.**

**Вершы:** Гудкі—*А. Александровіча.*

**Навука і тэхніка.** Днепрабуд—нарыс *С. Ж.*

**Вокладка.** Організуйце іх—арт. *С. В.* Падумай.

Паштовая скрынка.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, Комсамольская, 25

№ 9 МАЙ 1927 г.

## ЮНЫМ ПІОНЭРАМ БЕЛАРУСІ

Н. ГАЛАДЗЕД.

Узрастаючай новай магутнай камуністычнай сіле—юным піонэрам Беларусі—у дзень пяцёхгодзьдзя вашай organізацыі, ЦК КП(б)Б шле сваё камуністычнае прывітаньне!

Ваша галоўная задача—упарта выхоўваць сябе і масы дзетвары рабочых і сялян у камуністычным духу шляхам, перш за ўсё, усебаковага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве!

Сэкратар ЦК КП(б)Б

Н. ГАЛАДЗЕД.

**Наша сьвята — сьвята ўсіх працоўных. Прыцягнем увагу дарослых да піонэраў. Даб'емся дапамогі і ўважлівых адносін да працы па палепшаньню нашага жыцьця.**



А. Чарвякоў.

# Барацьбітам за лепшую будучыну

## Прывітаньне Старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова

**Вітаю беларускую організацыю юных піонэраў з прычыны 5-х гадовага існаваньня організацыі.**

**Жадаю, каб беларуская піонэрыя была і далей добрай кузьняй для выкоўваньня ленінцаў—барацьбітоў за лепшую будучыну—ЗА КАМУНІЗМ.**

# Вучэцеся колектыўна жыць і працаваць

*(Артыкул Народнага Камісара Асьветы т. А. Баліцкага да юбілею піонэрскай організацыі)*

Пяць год прайшло з таго часу, як пачалі організоўвацца піонэрскія організацыі ў Савецкай Беларусі. За гэты час яны значна ўзмацніліся і вырасьлі. Дзеці маюць сваю камуністычную ленінскую організацыю. У ёй, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі і Камсамолу, дзеці падрыхтоўваюцца, каб быць сьвядомымі барацьбітамі і будаўнікамі камуністычнай грамады.

Што для гэтага піонэрам трэба рабіць, каб быць сьвядомымі будаўнікамі і барацьбітамі?

Перш за ўсё піонэры павінны добра вучыцца, бо няпісьменнаму чалавеку цяжка быць сьвядомым, бо без навукі нельга будаваць социялістычную грамаду.

Піонэры павінны вучыцца лепей, чым непіонэры; той дрэнны піонэр, хто дрэнна вучыцца. Трэба добра вучыцца ня толькі ў школе, але і ў жыцьці. Жыцьцё таксама школа і вялікая школа. Піонэры ведаюць і павінны ведаць, што ў жыцьці вядзецца барацьба: змагаюцца паміж сабою, з аднаго боку, рабочыя і беднейшае сялянства і тыя працоўныя, якія да іх далучаюцца, а з другога боку, капіталістыя і паны. У савецкіх рэспубліках перамога на баку рабочых і сялян, а ў іншых краінах капіталістыя і паны яшчэ сядзяць на карку рабочых і сялян. Барацьба йдзе. Піонэры заўсёды на баку рабочых і бяднейшых сялян; у савецкіх рэспубліках яны павінны быць заўсёды гатовымі абараняць заваёвы рабочых і помніць, што прыдзецца яшчэ весьці барацьбу з капіталістымі і панамі, каб зьнішчыць капіталістых ва ўсім сьвеце.

Ды і ў нас гэтая барацьба таксама незакончана; на вёсцы змагаецца кулак з бедняком і серадняком; абдурвае народ поп і ксёндз, каб дапамагчы кулаку ў барацьбе; у мястэчку дробны саматужнік і саматужнік-серадняк змагаюцца з

буйным саматужнікам-кулаком, змагаюцца з гандляром; абдурае народ равін, каб дапамагчы гандляру і буйнаму саматужніку-кулаку; у гарадох ёсьць нэпманы, якія імкнуцца аб'яднацца з кулакамі. Але ў савецкіх рэспубліках гэта змаганьне йдзе ня так, як у капіталістычных дзяржавах; там рабочым і бяднейшым сялянам трэба браць аружжа ў рукі, каб скінуць спачатку ўладу, якая складаецца з капіталістых, у якой ёсьць войска, паліцыя, многа грошай і якая абараняе капіталістых і прыгнятае рабочых.

У нас рабочыя ўжо ўзялі ўладу ў свае рукі, і ў саюзе з бяднейшым сялянствам і сераднякамі будуюць соцыялістычную дзяржаву. Капіталістых і паноў мы выгналі, маемасьць іх забралі сабе; мы змагаемся з кулакамі і нэпманамі, каб ня даваць ім багацець і расьці, бо яны могуць багацець і расьці за кошт рабочых і сялян. Мы змагаемся не з аружжам у руках, а абкладваем кулакоў і нэпманаў вялікімі падаткамі, не даем ім арганізавацца, не дапускаем іх да ўлады; дапамагаем беднякам, і гэтым самым даем ім магчымасьць пазбавіцца ад кабалы кулакоў. Разгортваецца каапэрацыя, якая з кожным годам усё будзе больш і больш выцясьняць прыватнага гандляра, бо прыватны гандляр прадае свае тавары даражэй, чым каапэрацыя.



т. А. В. Баліцкі.

Усё гэта піонэры павінны ведаць, і вучыцца, як рабочыя ў саюзе з бяднейшым сялянствам і серадняком замацоўваюць сваю ўладу; інтарэсы піонэраў аднолькавы з інтарэсамі рабочых і бяднейшых сялян і ўсіх працоўных, якія да іх далучаюцца.

Піонэры гавораць і вучацца на розных мовах: на беларускай, яўрэйскай, расійскай, польскай і на іншых. Гавораць і вучацца так, як больш зразумела для іх; кожнаму больш зразумелая родная мова, і ён на ёй гаворыць і вучыцца, але піонэры ведаюць і павінны добра ведаць, што ўсе піонэры, ня гледзячы на тое, на якой мове яны гавораць,—паміж сабой таварышы; усе яны ідуць за адну справу—за справу рабочых і сялян.

Піонэры організаваны ў атрады, зьвеньні, форпосты, яны вучацца організоўвацца і працаваць колектыўна. Гэта вельмі важна, бо ў організацыі і колектыве моц рабочых і сялян. Рабочыя ў савецкіх рэспубліках змаглі перамагчы капіталістых і паноў толькі затым, што організавалі моцную камуністычную партыю бальшавікоў і прыцягнулі да сябе сялянства. Рабочыя ўсяго сьвету перамогуць капіталістых і паноў, як організуюцца ў адзіную моцную рабочую організацыю.

Сацыялістычная грамада будзе працаваць колектыўна. Колектыўна працуюць рабочыя на фабрыках і заводах; колектыўна будуць апрацоўваць зямлю сяляне. Колектыўна можна больш зрабіць і больш вырабіць прадуктаў, бо да колектыву можна прыцягнуць машыну. Вось чаму піонэры павінны навучыцца працаваць організавана і колектыўна. А працаваць колектыўна гэта азначае: падпарадкавацца волі колектыву і быць адказным за яго працу; зьвязваць свае ўчынкі і дзеяньні з інтарэсамі ўсяго колектыву цалкам; колектыўна думаць, адчуваць і дзейнічаць; стрымліваць і дысцыплінаваць сябе ў інтарэсах колектыву.

*Маё шчырае прывітаньне ўсім піонэрам у пятую гадавіну існаваньня піонэрскай організацыі.* **А. Баліцкі.**




Невялікая група дзяцей, распачаўшая сваю працу ў 1922 г. пад назваю „Юны Спартак“ у чэрвені м-цы 1923 г., налічвала 1.286 чал., 12 атрадаў. Большая палова атрадаў з'організавалася ў Менску—7, астатнія ў павятовых гарадох.

Прайшло пяць гадоў. Юныя Піонэры імя Леніна, якія атрымалі такую назву на VI Усерасійскім зьезьдзе комсамолу ў 24 г., вырасьлі ў агромністую сілу.

Дзеці фабрык, заводаў, дзіцячых дамоў, мястэчак, глухіх далёкіх вёсак, сёл, хутароў ведаюць піонэраў. Піонэраў цяпер у нас на Беларусі 77.314 чал.

Піонэры ўжо змаглі каля сябе з'організаваць малодшых дзяцей—акцябрат, якіх налічваецца 9.744 чал.

Хто ня ведае піонэраў? Піонэраў ведаюць старыя, іх ведаюць маленькія дзеці, якія толькі пачынаюць хадзіць. Часта бывае калі такі малы не дае спакою сваёй матцы: „вядзі мяне ў піонэры і больш нічога“. 3-х гадовы малыш на прывітаньне адказвае салютам. Піонэры—дзеці Кастрычніка—унесьлі новы струмень у сям'ю, паднялі бадзёрасьць, жвавасьць нашай школы.

Многа з тых піонэраў, якія ўступілі ў першыя гады ў організацыю, цяпер працуе на актыўнай комсамольскай рабоце: сакратарамі ячэек, агітпропамі, павадырамі нашых атрадаў і інш. Піонэры рыхтуюць з сябе зьмену комсамолу, рыхтуюць новых грамадзян, на практычным удзеле ў пасільнай дзецям працы ў гаспадарчым і культурным адбудаваньні нашай краіны.

На фабрыцы, заводзе—яны памоцнікі комсамолу, партыі, фабкому і мясцкому. У вёсцы—комсамолу, партыі, сельскаму савету, коопэратыву, камітэту сялянскай узаемадапамогі. У школе—першыя памоцнікі настаўнікаў у організацыі дзяцей над вучобай.

Маючы гэта ў дзень 5-цёхгодзьдзя організацыі, мы павінны адзначыць, што наперадзе работы яшчэ больш.

Нашы піонэры не адзін раз заяўлялі свайму павадыру атрада, што яны ня зусім здаволены яшчэ працай у атрадзе. Некаторыя выказвалі свой протэст нават выхадам з атрада.

Што-ж нам патрэбна, каб ажывіць нашу працу, зрабіць яе цікавай для кожнага піонэра?

Для гэтага патрэбна будаваць працу атраду, працу зьвяна самім піонэрам, абгаварваць кожную маленькую прапанову піонэра на зборах, і на падставе іх уласных думак складаць пляны сваёй далейшай працы.

Кожны піонэр у атрадзе павінен выконваць работу па яго сіле. Раней мы сваю працу будавалі на гутарках. Такія гутаркі піонэрам надаядаюць, робяцца прыкрымі, а праз адны гутаркі без практычнай працы ня можна падрыхтаваць з сябе добрага працаўніка.

Таварыш Ленін, імя якога мы носім, казаў комсамолу, што падрыхтавацца да ўдзелу ў будаваньні нашай краіны можна толькі тады, калі кожны з нас будзе рабіць хоць маленькую карысную справу для грамады.

Мы цяпер пачынаем у нашых піонэрскіх атрадах працаваць па заданьням. Заданьні могуць знаходзіць самі піонэры пры дапамозе павадыра атрада, і кожны піонэр павінен выконваць адну з частак такога заданьня па яго сілам.

Патрэбна, каб работа атрадаў была жвавай, бадзёрай. З гэтай мэтай піонэры ў атрадзе організоўваюць добра свой адпачынак: ходзяць разам у кіно, ку-

пацца, на прагулку, экскурсію, наладжваюць вечары, падбіраючы такія нумары, якія пажаданы дзецям, організоўваюць натуралістычную работу па вывучэньню жыцьця птушак, расьлін, праз групу ў атрадзе з жадаючых дзяцей альбо праз гурток пры школах, організоўваюць пры клюбах музычныя гурткі, майстэрні. Піонэр-атрад дапамагае піонэрам у іх тэхнічнай дзейнасьці дома. Вясковы піонэр і атрад стараецца палепшыць гаспадарку, навучыцца культурнаму вядзенью гаспадаркі, для чаго пры школах атрады закладаюць свае паказальныя градкі, агароды.

У нас, таварышы, цяпер яшчэ многа ёсьць бяспрытульных дзяцей, якія ня маюць сваіх сем'яў. Мінулая вайна заставіла многа сірот.

Кожны з нас павінен заўсёды клапаціцца аб гэтых дзецях. Нам трэба ўзмацняць працу таварystваў „Прыхільнікі дзяцей“, самім уступаць у гэтыя таварыствы, уцягваць сваіх бацькоў. Прыцягваць і бяспрытульных у працу свайго атрада.

Свой 5-цёхгадовы юбілей і міжнародны дзіцячы тыдзень мы праводзім вольна. Нам дапамагаюць нашыя старэйшыя таварышы, комсамол, партыя і савецкая ўлада.



*Старшыня Цэнтральнага Бюро Юных піонэраў Беларусі тав. М. Адзінец.*

За межамі дзеці рабочых і сялян гэтага ня маюць. Там ім улада буржуяў не дапамагае, а душыць, арыштоўвае, расстрэльвае бацькоў. У школах ужываюць кару, дурманяць законам божым.

Кожны з нас павінен ведаць аб жыцьці галадаючых дзяцей Польшчы, Зах. Беларусі і Кітаю і чым мага дапамагаць ім.

Сёньня — наша гарачае піонэрскае прывітаньне дзецям рабочых і сялян капіталістычных краін!

Сёньня — наша гарачае прывітаньне старэйшым братом—Ленінскаму Комсамолу і Партыі!

**М. Адзінец.**

**Піонэры! пашырайце свае веды, узмацняйце вучобу ў школе, рыхтуйцеся да ўдзелу ў цяжкай працы па будаваньню культуры і гаспадаркі краіны.**

# ПЕРШЫ „ДЗЯТКОМ“

*(Малюнкі з гісторыі)*

I

Міколка Камароўскі ўвесь дзень чагосьці сумны. Нішто не вяселіць хлопца: ні кніжкі, па якіх трэба вучыць яму ўрокі, ні гульні...

Думкі Міколкі заняты зусім іншым. Пачалося з таго, што яго, Міколку, і яшчэ некалькі яго таварышоў выгналі комсамольцы з ячэйкі, учора выгналі. Выгналі так сабе: зачынены сход, а яны яшчэ малыя і прыняць іх у ячэйку хлопцы ня хочуць. А як ім хацелася быць разам з комсамольцамі, паслухаць на сходзе, што гавораць пра вайну, пра тое, як дзе жывуць людзі на сьвеце, як яны змагаюцца, ды як жыве ў нас моладзь! У школе аб гэтым ня кажуць. Там толькі лекцыі, вурокі,—сумна і няцікава заўсёды думаць толькі аб вуроках.! А тут холадна,—на дварэ не пагуляеш. Прабавалі хлопцы хадзіць у клюб КІМ, ды нешта ня клеіцца гэта справа. Сярод старэйшых яны адчуваюць сябе дрэнна. А часта які-небудзь з „старэйшых“ пажартуе на іх: „Спаць малым пара, чаго вы бакі абіваеце тут?“ Ды яшчэ добра, калі·толькі пажартуе,—іншы злосны і выкінуць можа. Нічога ня зробіш—слухацца трэба...

А калі прышоў дамоў сёньня старэйшы брат яго, комсамолец Міхась, Міколка чуць ня з плачам да яго:

— Я таксама хачу быць комсамольцам... Чаму мяне ня прымаюць...

— Ня можна, брацішку... закон такі прынялі ў комсамоле, што яжэлі табе няма, значыцца, столькі-та і столькі гадоў, ты—падшыванец яшчэ, і ў разон цябе ня прымаюць...—Ізноў жартуючы чамусьці адказаў брат, як і іншыя яго таварышы.

Яшчэ больш крыўдна стала Міколку. Ён нехаця, міжвольна, сярдзіта з пагрозай заявіў:

— Ня хочаце прымаць—ня трэба... Да мяне зараз прыдуць таварышы і мы зробім сваю ячэйку. Будзем тады рабіць свае сходы, а вас—ні-ні, нават і на адчынены сход ня пусьцім. Вось, што вам за гэта!

— А-а-а, гэта справа іншая,—усьміхнуўся Міхась. Толькі так. А то падумай, ну, што мы з вамі будзем рабіць? Вы-ж дурэць будзеце, перашкаджаць нам.

І пасьля гэтага аж весялей стала хлопцу. Усё роўна, як усё і сталася ўжо так, як ён надумаўся. З нецярплівасьці, недачакаўшыся сяброў сваіх, пабег ён сам да іх, вясёлы і радасны. Хацелася чым хутчэй расказаць аб сваёй вынаходцы, чым хутчэй зрабіць яе сапраўдным фактам.

А на дварэ кружылася мяцеліца.

Лёгкім пухам слалася яна між завулкаў акраіны гораду, ад моцнага ветру сьвістала завіруха і сьпявала свае дзікія песьні. Ужо цямнела, як Міколка, моцна задыхаўшыся, бегаў па завулках Ляхаўкі і зьбіраў сваю хэўру, каб расказаць ёй аб сваёй вынаходцы: зрабіць сваю дзіцячую ячэйку.

II

Назаўтра ўся гуртам, пад кіраўніцтвам Міколкі, увваліла новая ячэйка юных комунараў у комсамольскі клюб. Знайшоўшы загадчыка, пазнаёмілі яго з сваімі замерамі.

— Гэта дэлегацыя ад юных комунараў Менску. Мы хочам зрабіць

сваю ячэйку...—Загадчык зьдзіўлены такой неспадзяванай дэлегацыяй ад дзетвары, запытаў:

— А што-ж вы рабіць-то будзеце ў сваёй ячэйцы?

— Тое, што вы ў сваёй робіце,—



*Назаўтра ўваліла новая ячэйка ў комсамольскі клюб.*

нядоўга разважаючы, адказаў адзін з дэлегатаў.

А Міколка, падумаўшы, дабавіў:

— Мы хочам, каб вы далі нам у клюбе пакойчык, а можа і павадыра-комсамольца, каб памагаў нам...

Дэлегаты трымалі сябе стала і паважна. Па выразах твару кожнага відаць была сур'ёзнасьць і заклапочанасьць.

— Вось гэта дык навіна! Як гэта вы дадумаліся да такой справы?— зьбіты з панталыку, перапытваў усё яшчэ зьдзіўлены загадчык.

— Мы самі. Вы нас ня прымаеце ў ячэйку, дык мы дадумаліся зрабіць сваю і—канец!

Дэлегаты абаранялі свае патрабаваньні настойліва, упарта. Была склікана цэлая нарада клюбу і шмат комсамольцаў; доўга спрачаліся меркавалі, што зрабіць з гэтымі новымі „комунарамі“.

Урэшце, згадзіліся дапамагчы. Юныя комунары ўзялі перамогу на першай пазыцыі свайго змаганьня за існаваньне асобнай організацыі дзяцей.



III

Вясёлы народ у комуне. Сьцены ўсяго клюбу калоцяцца, калі зьбярэцца народ з комуны ў свой „дзяткомаўскі“ пакой. Сюды пацягнуліся дзеці амаль з усяго гораду: цесна, густа іх тут, як авец у добрага пастуха.

Пакойчык пачынае „расьпірацца“. Камуна адваёўвае сабе ўсе калідоры, вольныя памяшканьні, чытальню...

Сьмех, сьпевы, жарты, праца—усё зьлілося ў адно дзіцячае, вясёлае, маладое жыцьцё, якое толькі што разгортвае свае сакаліныя сілы, выпроствае крыльлі, каб узьняцца высока, высока ў гэтым жыцьці. Буйнымі кветкамі закрасавала дзіцячая вясна.

Міколка цяпер не сумаваў. Ён з кожным днём выдумліваў усё новыя і новыя пляны, як працаваць, як жыць іх камуне, бо кіраўнік іх, комсамолец, нешта „хварэе“ ўсё на гультая: ня хоча хадзіць да іх, а калі і прыдзе, дык толку мала з яго—ня ведае нічога, што рабіць.

А пасьля і зусім не пашоў, адмовіўся. Далі тады другога, і другі ня лепшы.

Ды мала таго. Пайшлі чуткі, што комсамольцы „разагнаць“ зьбіраюцца організацыю дзяцей: вельмі-ж ужо надаядаюць ім вясёлыя жыхары дзяткому.

Чуткі перавярнуліся ў сумную гісторыю: дзяткомаўцы прымушаны былі „выселіцца“ з клюбу „КІМ“. А куды?—невядома: куды хочаш, туды і йдзі...

Ізноў засумаваў Міколка і яго таварышы, ізноў насталі для яго невясёлыя дні. Думаў шмат, упарта і напружана думаў цяпер ён аб тым, дзе знайсьці сабе клюб. Каб вясна—не бяда была-б.

Аднаго разу пад строгім сакрэтам заявіў Міколку і яго бліжэйшым таварышам сябра дзяткому Якімка:

— Памяшканьне ёсьць! Жывем.

— Дзе, што?—з нецярплівасьцю накінуліся на яго хлопцы.

— Недалёчка, па Савецкай вуліцы, я выпадкова знайшоў стары флігэль, дзе ніхто ня жыве, відаць адракліся яго...

Такое шчасьце было вялікім сьвятам для сяброў дзяткому. Хутка новы „клюб“ быў агледжаны абчышчаны... у ім зьмясьціліся.

Дзятком ізноў ажыў, зноў пачалося ранейшае жыцьцё.

На райком комсамолу і клюб „КІМ“ не спадзяваліся хлопцы з дзяткому. Пачалі працаваць самі, але нялёгкая гэта справа самім сумець наладзіць так працу, каб зацікавіць усіх. Патрэбна дапамога.

Гэтай дапамогай зьявілася спартакаўская дружына, якая да гэтага часу ўжо організавалася.

Такім было слаўнае прадвесьне дзіцячай комуністычнай організацыі, якая сама стыхійна ўтварыла свой „дзятком“.

Міколка і яго бліжэйшыя таварышы з гарачай, шчырай адданасьцю сваёй справе знайшлі сваю сапраўдную новую комуну ў піонэрскай організацыі, якая прышла на зьмену спартакаўскім дружынам.

Міколка даўно ўжо комсамолец. Часта ў сваім атрадзе, дзе ён зьяўляецца павадыром, Міколка з гордасьцю і замілаваньнем расказвае піонэрам аб зіме 1922 г., калі організаваў ён з таварышамі 1-шы атрад на Беларусі. Толькі з назваю троху памыліўся—не атрадам, а „дзяткомам“ назвалі яны 1-ю групу юных комунараў-ленінцаў.



**А. Якімовіч.**



# ГУДКІ

1

Як толькі ноч суровая
за небасхіл зьбяжыць,
зарніца каляровая
над краем задрыжыць.
Устануць і зьбіраюцца
на поле мужыкі,
а ў горадзе ўзьвіваюцца
гудкі... гудкі...

2

Рабочыя адважныя
на фабрыку ідуць—
хутчэй пазбыць сярмяжную
нам спадчыну—бяду.
У вёску з самажнейкамі
імчацца цягнікі.
Пачуюцца з жалейкамі
гудкі... гудкі...

3

Як глянеш, сэрца радуе:
будуем новы лад.
У кожнай хаце радыё
і радасьць зацьвіла.
Была дрыгва далінаю
праз цэлыя вякі,
цяпер гудуць машынныя
гудкі... гудкі...

4

А сонца шле праменьні нам,
вось быццам на папас.
Мы помнім, помнім, Леніна
ня стала сярод нас...
І змоўклі над краінаю
сякеры, малаткі:
заплакалі хвілінаю
гудкі... гудкі...

5

З песьнямі агністымі
і крэпнем і расьцём.
Мы будзем комуністымі—
на зьмену мы ідзём.
Мы будзем абаронаю—
мы ўсе франтавікі,—
хай клічуць нас чырвоныя
гудкі... гудкі!..

**А. Александровіч.**



# ПЕРШЫЯ ДНІ

*(З жыцьця Віцебскай організацыі)*

К 1-му чэрвеня 1923 г. на дзьверах Губкому КСМ была вывеша на абвестка:

*„Дзеці рабочых, уступайце ў шэрагі юных піонэраў! Запіс робіцца тут“.*

З гэтага часу валілі дзеці групамі запісвацца ў піонэры. Ня было адбою. Ужо ў пачатку чэрвеня запісалася каля 300 чалавек. Усе чакалі першага дню збору, і, урэшце, дачакаліся.

9-га чэрвеня. Сонечны дзень. А 4-й гадзіне дню на „Усьпенскай горцы“ поўна дзяцей,—чакаюць „начальнікаў“ з Губкому. А 5-й гадзіне пачулася каманда: „Стройся ў адзін шэраг“.

Пачалі выбіраць 1-ую групу ў піонэры. Выбралі ўсяго 48 чалавек, а астатніх абяцалі прыняць праз некаторы час.

48 шчасьліўчыкаў падзяліліся на „патрулі“ і, першай справай,—гэта трэба

было навучыць іх строю. Пасьля страявых заняткаў была праведзена першая гутарка пра Карла Лібкнэхта і Спартака, а пасьля гэтага разышліся.

Спрэчкі адбываліся тады вельмі часта. Пачалі развучваць законы і звычаі, колектыўную дэклямацыю, песьні, гімнастыку, гульні, а галоўным чынам, страявыя практыкаваньні.

Першым экзаменам для піонэраў было выступленьне на дэмонстрацыі ў часе сьвяткаваньня 6-гадовага юбілею Комсамолу Віцебшчыны (22 чэрвеня). Піонэры (тады яны называліся спартакаўцы) прайшлі ў гэты раз парадам і зрабілі масавае гімнастычнае выступленьне.

У ліпні месяцы было ўжо 150 піонэраў, якія складалі 3 атрады. З гэтых атрадаў утварылася дружына юных піонэраў. У кожным атрадзе было 4 патрулі (групы), з якіх адзін патруль дзяўчат (асобна). У кожным патрулі было па 12 чалавек,—на чале з „начальнікам“ патруля. Атрадам кіраваў комсамолец—„начальнік“ атраду. У горадзе піонэры сталі адрозьнівацца сваімі гарнітурамі, гальштукамі і чырвонымі піонэрскімі значкамі на рукаве. На працягу лета атрад арганізаваў шэраг пагулянак за горад; хадзілі тады з посахамі (доўгімі палкамі), устрайвалі паходы, гульні і інш. Правялі некалькі масавых гульняў. Адну масавую гульню правялі ў м. Лезна, куды піонэры езьдзілі на цягніку. Гульня абхапіла ўсё мястэчка і гэта было пачаткам сувязі гарадзкіх піонэраў з местачковымі дзецьмі, і пачаткам пашырэньня сваёй організацыі ў павеце. Быў організаваны першы атрад у мястэчку.

Надышла восень. У сувязі з тым, што 2-гі Зьезд Саветаў узяў шэфства над піонэрамі, піонэры атрымалі клюб (быўш. вялікая сінагога) і там разгарнулі сваю працу. Былі часта вечары, масавыя інсцэніроўкі.

Узімку атрады правялі вялікую кампанію дапамогі нямецкім дзецям. Інсцэніравалі іх быт і жыцьцё.

Прышла вясна. Была організавана добрая выстаўка. Гэтай выстаўкай піонэр-організацыя паказала свае дасягненьні перад усёй масай за зімовы пэрыод працы. 3-ці атрад узяўся зьбіраць колекцыю марак, грошай, расьлін і жывёлін.

У гэты час ужо тэрміны—„начальнік“, „патруль“, „дружына“—адпалі. Ёсьць тэрміны—„кіраўнік“, „зьвяно“ і г. д. Менш ужо хадзілі з посахамі, а пачалі вывучаць вытворчасьць, наладжвалі розныя экскурсіі, але не адмаўляліся і ад гульняў і піонэрпрактыкі, а іменна: сыгналізацыі, складаньне плянаў мясцовасьці і г. д. К гэтаму часу перадалі ўжо 10 піонэраў у Комсамол. За лета 1924 г. організацыя вырасла да 3.300 чалавек у горадзе.

Віцебская піонэрыя прайшла вялікі шлях з 1923 г. Ад маленькай кучкі дзяцей (48 чалавек у горадзе), яна разраслася ў вялікую, больш за 12.000, сям'ю, сябры якое раскіданы ня толькі па гораду і мястэчках, а і па вёсках. **Б. Ром.**



*Адзін з першых атрадаў у Віцебску.*

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО ТАКОЕ ПОСАХ?

*(З нашага мінулага)*

Любыя малюнкі. Перад маімі ва- чыма плывуць малюнкі лагераў, збораў... Я бачу палаткі і вогнішчы, чую сьвісткі і гул бубнаў—старонку за старонкай я чытаю жывую кнігу, назва якой—„Гісторыя піонэр-руху на Беларусі“.

З гэтай кнігі асабліва яскравы ў памяці тыя старонкі, якія малююць мінулыя часы работы піонэрскай організацыі.

### Інструктарская група ці юныя сьледапыты

У тыя часы піонэраў яшчэ ня было. Ня было нават і спартакаў. Толькі 30 комсамольцаў, якіх вылучыла ЦК, склалі інструктарскую групу будучых павадыроў.

Весела рухаючы няпрывыкшымі к свабодзе нагамі, упяршыню ў трусіках, дзесятак хлопцаў практыкуюцца на толькі што скончанай сенажаці. Гэта адзін з патрулёў (зьвяно) інструктарскай групы на практычных занятках.

Далёка недзе відаць 2 белых сьцяжкі. Чуць-чуць прыметна некалькі фігур—гэта абучаюцца перадачы па азбуцы Морзе. Другая група тут-жа прымае знакі. Патрульны піша ў сваёй кніжцы кропка, працяжнік, кропка і г. д.

Там далёка ўзмахнулі зразу абодвымі сьцяжкамі—канец перадачы. Патрульны прачытвае апошняе. Атрымліваецца: „Юны Спартак“. Апошняе прачытана і зараз-жа узмахамі сьцяжкоў даецца адказ: кропка, працяжнік, кропка (· — ·)—„Будзь гатоў“.

Невялічкая „гутарка каля вогнішча“. Каля самага настаяшчага вогнішча пад хвойкай. Павадыр расказвае аб правілах жыцьця спартакаў, аб законах і звычаях (спартакі вітаюцца за левую руку), паказвае ўмоўныя знакі, тлумачыць, як адшукваць сьляды.

Гэтыя хлопцы-комсамольцы—1-ы камандны склад будучай піонэрскай арміі.

### Даеш лагер!

Ці ведаеце вы, што такое посах? Мажліва, што піонэры цяпер і ня ведаюць, а між тым, 3 – 4 гады таму назад, першыя піонэры (юныя спартакі) ні на хвілінку не разлучаліся з посахам. Доўгая палка, чуць не на аршын вышэй самога спартака, які яе насіў, шанаваў—гэта посах. Посах дапамагаў ува ўсіх выпадках жыцьця спартака. З посахаў будавалі загародкі, шалашы, палаткі, нават масты, каб перайсьці праз рэчку.

Спартакі таго часу не прызнавалі памяшканьняў. Гутаркі, зборы праводзіліся ў садох і на пляцоўках. Часта спартакоўцы выходзілі на дзень-два ў лагер.

Мне ўспамінаецца 1-шы лагер 4-га атраду.

Ужо а 4-ай гадзіне ночы спартакі пачалі зьбірацца ў клюбе „КІМ“. За плячыма торбачкі, поўныя хлеба, масла, яек і інш. У кутку куча посахаў. Выхад у лагер быў назначан а 6-ай гадзіне раніцы (згодна правілам, што трэба рана ўставаць і загартоўваць свой організм), але, баючыся спазьніцца, сабраліся раней. Цярушыў дождж, калі яшчэ змрокам спартакі рушыліся ў паход.

Між іншым, калі прышлі ў лес, то ужо стала сьвятлець. Сонейка

весела засьмяялася і асьвяціла ўсіх дзяцей, якія зараз-жа ўхапіліся за працу, распіналі палаткі, капалі канавы навокал будучага вогнішча, зьбіралі гальлё і інш.

К 8-мі гадзінам раніцы лагер гатоў. Тры працяжных сьвісткі зьбіраюць патрульных к павадыру (тады вельмі ў ходу былі ўсялякія сыгналы, сьвісткі. Тры працяжных свісткі—азначала: „патрульныя да мяне“, г. зн, да павадыра; дробны, часты сьвісток—азначаў агульны збор). Абгаварваецца парадак адчыненьня лагеру. А праз 2 гадзіны страшэнны шум будзіць лес. Спачатку заліваецца сыгнал, а потым гул бубнаў, мэлёдыі сьвісткоў патрульных. Але гэты шум наводзіць парадак. Хутка ў лесе становіцца ціха. Усе піонэры выстраіліся ў доўгі шэраг перад лагерам. На высокай палцы ўзьвіваецца і лапоча ад ветру сьцяг. І раніцай ў лесе, у дадатак да сьпеваў птушак, разносіцца Інтэрнацыянал з 50 маленькіх грудзей.


На ўсіх вуліцах спартакі ўтваралі ланцуг з посахаў.

Лагер адчынен. Адпачынак.

### Скауты

Некалькі піонэраў з лагеру адлучыліся на пагулянку і хутка адзін з іх прыбег з весткай, што недалёка праходзяць скауты.

І на самай справе, хутка паказаліся 3 фігуры, адна лёгка прыкульваючы, у скауцкім адзеньні, з торбачкай за плячыма. Кульгавага піонэры зналі—гэта быў кіраўнік менскіх скаутаў пры палякох. Хоць скаутаў у Менску было вельмі мала,—паўтара дзесятка чалавек,—ўсё-ж такі спартакі адчувалі ў іх сваіх ворагаў і ўсякімі шляхамі змагаліся з імі.

Зараз-жа і гэтыя 3 чарапы былі затрыманы і адпраўлены да начальніка атраду, які над імі ўчыніў допыт. На допыце скауты растлумачылі, што яны „скауты-адзіночкі“ (з гэтае прычыны яны маюць права насіць форму і трымаць сябе, як скауты, нават без атрадаў), ніякай арганізацыі ня маюць і зьвяртаюцца з 3-х тыднёвага лагеру.

Іх хутка выпусьцілі. Але, па выпадкова знойдзенай пісульцы, удалася даведацца імя таго, праз каго яны хацелі зрабіць уплыў на нашу арганізацыю.

### Збор посахамі

У Менску поўна галадаючых дзяцей. Спартакі ідуць ім на дапамогу.

Вуліцы загароджаны. На ўсіх вуліцах спартакі ўтварылі ланцуг з посахаў, не прапускаюць нікога, не даюць прайсьці, пакуль ня будзе дадзены выкуп на карысьць галадаючых дзяцей.

Рабочыя, партыйцы, савецка настроеная публіка весела сустракаюць гэткі „жарт“, даюць грошы ды яшчэ ў дабавак шлюць спартакаўцам пару ласкавых слоў.

Праз два дні робіцца падрахунак таго, што сабралі. Стол завалены кучамі крэдытак.

Спартакаўцы так рады сваёй удачай.

**І. Богін.**

# Замест аднаго—дваццаць дзевяць

### Першыя крокі

К канцу зімы 1923 г. Мсьціслаўскі Павятовы Камітэт РКСМ пачаў працу сярод дзяцей. У горадзе і вёсках комсамольскія ячэйкі распачалі працу, праводзячы яе ў дзетдамох і школах. Калі браліся за працу, вопыту свайго ня было. Досталі кніжку „Спутнік юнага піонэра". З кніжкі даведаліся, што ў Маскве арганізаваны першыя атрады юных піонэраў. І ўвосень быў утвораны адзін гэткі атрад і ў Мсьціславе.

К 10-му МЮД'у (1924 год) першая група „Юных Спартакаў" у 18 чалавек „калёністых" (выхаванцы дзіцячай калёніі) выступіла пад сьцягам на дэмонстрацыі. Стройна йшлі „Спартакі", а на сьцягу ўсе чыталі:

„Мы юные спартаки,
Мы—дети Октября".

Наўкола з зайздрасьцю таўпілася дзетвара. Ноччу прымалі ўдзел у факельным парадзе за горад, падпальвалі там з комсамольцамі саламяныя чучалы лордаў Керзана і Пуанкарэ.

Праца пачалася. Чыталі кніжкі, праводзілі гутаркі з палітграматы.

Да гэтай групы хутка далучаецца група гарадзкіх дзяцей—рабочых падросткаў 14—16 гадоў. Група вырасла да 30 чалавек і пераіменоўваецца ў „Атрад імя Спартака". Падзяліліся на групы (накшталт цяперашніх зьвён). На чале кожнай групы быў выбраны „начальнік", на чале ўсяго атраду быў назначаны таксама „начальнік"—комсамолец. Займаліся ў памяшканьні гімнастычнае залі.

Здарэньні ў Нямеччыне (захоп Руру французскай арміяй і рэволюцыйная барацьба) яшчэ больш ускалыхнулі нашыя групы, унесьлі нешта новае, цікавае ў працу. З захапленьнем слухалі аб тым, што робіцца ў далёкай Нямеччыне, аб гэройскім змаганьні рабочых Гамбургу, падрыхтавалі агітвечар. Жвава прайшоў вечар, на якім былі запрошаны і дзеці непіонэры. Пачаўся ён інсцэніраваным дакладам. Пад звонкі голас дакладчыка-піонэра чутны былі з-за сцэны выкрыкі: „хлеба, хлеба!", словы нейкіх аратараў—„нам ня трэба слухаць буржуяў,—яны нам зла жадаюць", выстралы,—усё гэта рабіла даклад цікавым, бязумоўна, прываблівіючым. Кончыўся 20-хвілінны даклад, і гучнае дзіцячае „ура" ўскалыхнула залю. Потым—п'еска, вершы, сьпевы, гульні. Гэтак прайшоў першы вечар організаваных дзяцей.

Праз месяцы паўтары, аднак, атрад развальваецца, праца яго незадавальняе дзяцей старэйшага ўзросту. І ў жалобныя Ленінскія дні ў 1924 г. амаль палова быўшых спартакаўцаў комсамольскага ўзросту ўступае ў РКСМ, як Ленінскі прызыў.

Такое зьявішча прымусіла зьвярнуць на сябе ўвагу комсамольскія і партыйныя організацыі. Пачалі паляпшаць форму і зьмест працы, прыстасоўваючы іх да ўзросту і запатрабаваньняў дзяцей.

### Першыя атрады

К канцу траўня таго-ж 1924 году з дзяцей дзетдамоў утвараецца атрад юных піонэраў з 34 асоб, які



Рыхтуюцца здаць урачыстае абяцаньне, каб стаць сапраўднымі піонэрамі.

31 траўня здае ўрачыстае абяцаньне 8-му Мсьціслаўскаму Павятоваму Зьезду КСМБ. Як нешта новае і цікавае сустракае комсамолія піонэрскія шэрагі, якія пад марш оркестру праходзяць, з сьцягам паперадзе, праз залю к авансцэне.

Дзень урачыстага абяцаньня 1-га піонэрскага атраду ў Мсьціслаўшчыне саўпаў з днём, калі Ўсесаюзная піонэрыя прыняла дарагі падарунак 13 Зьезду РКП—імя Ўладзімера Ільліча Леніна.



Праз месяц атрад дастаў клюб. Чуткі аб забойстве ў Польшчы комсамольца тав. Энгеля дайшлі да дзяцей, і аднадушна парашылі назваць у памяць загінуўшага таварыша, клюб яго іменем. Праца пачалася.

Організацыя піонэраў расла. Дзесяткі новых сяброў уліваліся ў яе шэрагі.

За паўтара-два месяцы загадзя пачалі падрыхтоўку да 4-га Міжнароднага Дзіцячага Тыдню. Самі склалі п'еску ў 3-х дзеях—„Дзеці Гамбургу“ (яна захавалася і цяпер) у памяць нядаўных рэволюцыйных боек братоў рабочых у далёкім Гамбургу (Нямеччыне).

Тут часам, ня гледзячы на летні час (гарачая пара ў сельскай гаспадарцы), дзетвара вёскі Колтава, Мсьціслаўскага раёну, організуецца таксама ў піонэрскі атрад. Гарадзкія атрады бяруць шэфства над імі. Гарадзкія і вясковыя—адны—там, другія—тут, з аднальковай урачыстасьцю і ўздымам рыхтуюцца здаць урачыстае абяцаньне, каб стаць сапраўднымі піонэрамі. А піонэрскі рух тым часам расшавельвае ўсё новыя і новыя куткі Мсьціслаўшчыны — вёскі: Старае Сяло, Новае Сяло, мястэчка Шамава.

**Вырасьлі**

Кончыўся 4-ты МДТ, пачаліся „піонэрскія будні“. З году ў год падагульнівалі працу, а цяпер, праз тры гады існаваньня піонэрорганізацыі на Мсьціслаўшчыне, не пазнаць піонэры. З жменькі ў 34 чалавекі разрасьліся ў вялікую організацыю (раённую) у 1080 піонэраў і 250 акцябрат.

Замест аднаго—29 атрадаў.

Тым цяжэйшыя і складнейшыя задачы паўстаюць цяпер у працы комсамолу сярод піонэраў пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі. Яшчэ большую адказнасьць павінна адчуваць і наша піонэрыя, відавочна ўбачыўшы гэтак цяжка пройдзены шлях. Яшчэ больш даражыць сваёй організацыяй, якой гэтак цяжка, упартай працай даводзілася кожнае невялічкае дасягненьне.

**І. Ланін.**







# Рыхтаваліся да 1-га Мая

*(Успаміны з працы 1-га атраду Ю. П. гор. Віцебск)*

А 6-й гадзіне ўвечары сакрэтны збор атраду. Піонэры зьбіраліся на яго так, каб ніхто іх не заўважыў. Кіраўнік кажа:

„У сувязі з надыходам 1-га Мая, наш атрад пераходзіць у падпольле, прытым ён павінен наладзіць арганізаванае выступленьне ў дзень 1-га Мая са сьцягамі, але ў гэтай справе нам будуць перашкаджаць, бо за намі будуць сачыць усялякія паліцэйскія і шпікі".

Далей ён апавядае, як у мінулыя часы рабочыя праводзілі маёўкі. Усё гэта піонэры ўспрынялі і лічылі, што наступіў для іх сур'ёзны ўрок. Тут-жа падзяліліся на раённыя групы, вылучылі кіраўнікоў груп для падрыхтоўкі да выступленьня.

На другі дзень а 5 гадзіне раніцы я іду да вызначанага месца, мяне сустракае „бабулька з бульбай" і перадае мне пісульку:—„Ідзі за мной". Я пайшоў. Мяне завялі ў падвал, дзе ўжо былі ўсе кіраўнікі груп на месцы. Там дасканала вызначылі розныя ўмоўныя знакі, склалі плян.

Праз гадзіну мы разышліся рознымі шляхамі і сабраліся на верхавіне гары (пры Белпэдтэхнікуме). Тут ужо быў увесь атрад. Усе піонэры сабраліся тут і абгаварвалі, што рабіць. Падцьвердзілі плян савету кіраўнікоў, вызначылі месца і гадзіны заняткаў. На першы раз было дадзена заданьне ўсім групам распаўсюдзіць адозвы і вывучыць песьні да 1-га Мая.

Назаўтра павінны зьбірацца ўсе групы: адны а 5-й гадзіне, а некаторыя— а 6-й. Я пайшоў а 5-й гадзіне ў адну групу; піонэры сабраліся ў нейкім склепе, каля саду, і там пачалі выконваць свае заданьні. Але раптам прыбег адзін з патрульнай групы і апавясьціў, што ў аднэй групе, якая павінна займацца а 6-й гадзіне, кіраўнік аказаўся правакатарам, ён перадаў усе адрасы кватэр і ўмоўныя знакі паліцыі. Зразу-ж двое сяброў з гэтай групы пайшлі папярэдзіць сяброў тае групы, дзе быў правакатар, каб яны не папалі ў лапы „шпікоў". Двое піонэраў схаваліся за дзьвярыма кватэры правакатара, і ўсіх сяброў групы адазвалі ў другое месца. У гэты час далі заданьне ўсім групам зьмяніць свае кватэры, а старыя ўмоўныя знакі зьнішчыць. І, такім чынам, адмежавалі правакатара ад нашай арганізацыі.

У той вечар піонэры працавалі амаль цэлую ноч. Падрыхтавалі досыць значную колькасьць адозваў. „Шпікі" гэтак сама працавалі. Хадзілі пераадзетымі ў розныя хаты, але нічога не напаткалі.



Тав. **Малкіна,** быўшая піонэрка; цяпер сэкратар ячэйкі ЛКСМ хімікаў у Віцебску.

Назаўтра-ж пачалі распаўсюджваць адозвы сярод дзетвары гораду. За гэты дзень адозвы былі распаўсюджаны па ўсіх дзіцячых дамох і профшколах, дзе толькі былі піонэры. Цікавае здарэньне было ў савпартшколе. Калі там вучні ўсталі раніцай, дык знай-

шлі ва ўсіх пад ложкамі адозвы. Або вось другі факт. Усім кіраўнікам „паліцэйскай“ організацыі ўпіхалі адозвы ў кішэні і яны ня чулі. У дзіцячых дамох ужо завербавалі на дэмонстрацыю цэлыя групы дзяцей.

Увечары перад 1-ым Маем а 5-ай гадзіне раніцы ўсе шпіёны і паліцэйскія ўжо былі на варце. Асабліва ахоўвалі яны мост, каб ня даць прайсьці сябром групы для злучэньня з дэмонстрацыяй. Але піонэры ўхітрыліся, пайшлі за горад, дасталі човен і пераехалі на другі бераг без усялякай западазронасьці. Сябры групы сабраліся ў 1-й частцы гораду на вышках аднаго дому, на акраіне. Выставілі сваіх вартаўнікоў, якія былі адзеты ў форме старажоў, сачылі, каб ня прыкмецілі месца. А тут, у гэтым доміку, рыхтаваліся да выступленьня. Змайстравалі чырвоны сьцяг. Некаторых сяброў групы ўсё-ж такі „арыштавалі“. Іх „мучылі“, але яны ня прызналіся і не сказалі, дзе зьбіраецца іх група. Піонэры трымаліся цьвёрда.

„Шпікі“ і „паліцыя“ думалі, што атрад зьбярэцца ў 3-й частцы гораду, і пусьцілі туды ўсю сваю сілу, а аказалася, група выступіла з чырвоным сьцягам у першай частцы, захапіла Цэнтральны піонэрскі клюб і організавала другія атрады на дэмонстрацыю 1-га Мая. Піонэры, такім чынам, вытрымалі вялікі экзамен у сваёй падрыхтоўцы да 1-га Мая. Шмат цяжкасьцяй яны перанесьлі.

Гэты характэрны выпадак, які я асабліва помню, з аднэй гульні старэйшых піонэраў Віцебшчыны ў 1924 годзе. Вось як працавалі піонэры ў той час.

Б. Рэнці.

✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲

# КОМСАМОЛ—СВАЁЙ ЗЬМЕНЕ

*(Прывітаньне Сакратара ЦК ЛКСМБ т. А. БАРАНЬНІКАВА)*



*Тав. А. Бараньнікаў.*

**У дзень пяцёхгодзьдзя піонэрскай організацыі Беларусі ЦК ЛКСМБ шле шчырае комсамольскае прывітаньне сваім маладзейшым таварышам—піонэрам.**

**Н а ш ы  п а ж а д а н ь н і  в а м:**

1 **Вывучайце рэволюцыйную барацьбу пролетарыяту ўсіх краін у сучасны момант, асабліва жыцьцё і барацьбу рабочых і сялян Кітаю і Польшчы.**

2. **Напаўняйце большым зьместам вашу ўнутрыпіонэрскую працу; г л ы б е й уразайцеся ў грамадзкае жыцьцё (в ы т в о р ч а с ь ц ь, сельская гаспадарка (школа).**

3. **Мы ўпэўнены—вы будзеце дастойнай зьменай Ленінскага Комсамолу, концэнтруючы сваю ўвагу ў даны момант на лёзунгу: „Піонэры, узмацняць социялістычную стройку, будзьце гатовы!“**

*Сакратар ЦК ЛКСМБ*
*А. Бараньнікаў.*

# МІЖНАРОДНЫ ДЗІЦЯЧЫ ТЫДЗЕНЬ

Кожны год улетку дзіцячыя комуністычныя групы ўсяго сьвету праводзяць свой Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

**Для чаго праводзіцца гэты тыдзень?**

У час Міжнароднага Тыдню дзіцячыя групы дэмонструюць (паказваюць) сваё адзінства ва ўсім сьвеце, паказваюць, што піонэры ўсяго сьвету—адна сям'я. Ва ўсіх старонках наладжваюцца сьвяткаваньні, дэманстрацыі. Дзіцячыя групы стараюцца завязаць сувязь з таварышамі іншых краін.

Акрамя гэтага, Міжнародны Дзіцячы Тыдзень—гэта тыдзень агітацыі за дзіцячы комуністычны рух. У гэты тыдзень піонэры растлумачваюць дарослым і дзецям значэньне дзіцячага руху, паказваюць сваю работу, стараюцца ўцягнуць у свае шэрагі яшчэ неорганізаваных дзяцей.

**Гісторыя Міжнароднага дзіцячага тыдню**

*Першы тыдзень.* Першы тыдзень праводзіўся ў 1921 годзе. Вельмі добра ён прайшоў у Нямеччыне.

Былі выпушчаны спэцыяльныя карткі, маркі, газэты, плякаты. У час Тыдню праводзілася распрадажа комуністычнай літаратуры. Дзеці абходзілі двары, дзе жывуць рабочыя, зьбіралі там дзяцей і праводзілі сходы. Выяжджалі таксама ў вёскі для правядзеньня Тыдню.

У Бэрліне ў час дэмонстрацыі ў адным з раёнаў поліцыя напала на нашых таварышоў. Многія з іх былі арыштаваны. У другой частцы Нямеччыны поліцыя арыштавала дзіцячую часопісь, прысьвечаную Тыдню. У шмат якіх гарадох арыштоўвалі за распаўсюджваньне гэтай часопісі.



Дзіцячыя групы іншых дзяржаў таксама праводзілі гэты Тыдзень.

У Ангельшчыне, Бэльгіі, Францыі дзеці рабочых наладжвалі сьвята, распаўсюджвалі літаратуру.

*Другі тыдзень.* У 1922 годзе праводзіўся другі Міжнародны Тыдзень. Аб ім ужо ведалі дзіцячыя групы ўсяго сьвету, рыхтаваліся да яго і правялі добра. У першы раз у гэтым годзе праводзіўся тыдзень і ў нас (толькі ў Маскве).

*Трэці тыдзень.* К часу 3-га Міжнароднага Тыдню (1923 г.) дзіцячы рух ужо разгарнуўся ва ўсім сьвеце. Дзіцячыя групы замацаваліся, наладзілі ў многіх мясцох сваю работу.

Поліцыя ў той час яшчэ больш прасьледавала дзіцячыя групы. У час Міжнароднага Дзіцячага Тыдню поліцэйскія ва многіх мясцох разганялі дэмонстрацыі.

*Чацьверты тыдзень.* У 1924 годзе праводзіўся 4-ты Міжнародны Тыдзень. Гэты Тыдзень таксама прайшоў добра, асабліва ў Савецкіх Рэспубліках. Тыдзень быў прысьвечаны сувязі з Заходнімі таварышамі, сувязі з вёскай, уцягненьню неарганізаваных дзяцей, азнаямленьню рабочых з дзіцячым рухам. Пасьля Тыдню піонэрскія шэрагі значна павялічыліся.

*Пяты тыдзень.* Пяты Тыдзень праводзіўся ў 1925 годзе. Ён ахапіў мільёны дзяцей усяго сьвету.

На Захадзе Тыдзень прайшоў пад знакам пашырэньня дзіцячага руху, замацаваньня організацыі, уцягненьня новых сяброў.

У СССР увага была зьвернута на выкананьне такіх задач: сувязь з піонэрамі Захаду і Ўсходу, змычка з вёскаю, паляпшэньне работы па ўзмацненьню здароўя піонэраў, павялічэньне ўвагі вучобе і сувязі з Комсамолам.

*Шосты тыдзень.* Шосты Тыдзень праводзіўся ў мінулым годзе. К гэтаму часу піонэрская організацыя значна вырасла, асабліва ў Савецкім Саюзе.

У нас тыдзень прайшоў пад лёзунгамі: узмацненьне сувязі нашых атрадаў з замежнымі, паляпшэньне выхаваўчай работы ўнутры організацыі, уцягненьне ўсіх дзяцей у вучобу і будаўніцтва школы, узмацненьне сувязі 3-х пакаленьняў і праверка работы па аздараўленьню піонэраў.

### Тыдзень у гэтым годзе

Міжнародны Дзіцячы Тыдзень у гэтым годзе (сёлета) праводзіцца з 15 па 22 траўня (а ня ўвосень, як у мінулых гадох), ён прыстасоўваецца да 5-цігодзьдзя існаваньня піонэрскай організацыі ў Савецкім Саюзе; к гэтаму-ж тэрміну прыстасоўваецца 5-гадовы юбілей і піонэрскай організацыі на Беларусі.

Гэты тыдзень у нас сьвяткуецца пад лёзунгамі:

**1. Дапаможам дзецям Кітаю. Узмоцнім сувязь з замежнымі дзіцячымі ком. організацыямі, будзем вывучаць іх быт, працу і барацьбу.**

**2. Наша сьвята—сьвята ўсіх працоўных. Прыцягнем увагу дарослых да піонэраў. Даб'емся дапамогі і ўважлівых адносін да працы па палепшаньню нашага жыцьця.**

**3. Юныя піонэры—перадавы атрад дзяцей працоўных СССР.**

У гэты тыдзень наладжваюцца вечары, сьвяты з удзелам неорганізаваных дзяцей і дарослых. Піонэры стараюцца ўсім расказаць аб дзіцячым руху, аб яго задачах, рабоце як замежамі, так і ў Савецкім Саюзе, а таксама ў Беларусі.

У Міжнародны Дзіцячы Тыдзень трэба яшчэ шчыльней згуртавацца ўсёй дзетвары рабочых і сялян пад сьцягам піонэрскай організацыі.

❋❋❋❋❋❋❋❋❋❋

# ЖЫЦЬЦЁ ДЗЯЦЕЙ ВА ЎСІМ СЬВЕЦЕ

我们準備！ **Піонэрскі лёзунг —**

**УО-МЭН ТЧУМ-БЕЙ** *(Будзь гатоў!)*

## Атрады піонэраў у Лі-Лене*)

Піонэрскія атрады ў Лі-Лене былі арганізаваны ў студзені месяцы г. г. Арганізацыя налічвае больш 200 чалавек і падзелена на 10 атрадаў.

Павадыром атраду піонэраў у Лі-Лене працуе Сіо-Цу-Джы, вучаніца жаночае школы. Яна вельмі актыўна і добра кіруе гэтымі дзецьмі.

Піонэры нядаўна наладжвалі вечар. У програму ўвайшлі рэволюцыйныя сьпевы: „Маладая Гвардыя“, „Гімн нацыянальнай рэволюцыі“ і „Гімн Саюзу рабочых, сялян і чырвонаармейцаў“, масавыя гульні, скокі і г. д. Усе засталіся вельмі здаволены вечарам.

З вялікім настроем яны сустракалі кантонскую рэволюцыйную армію. У гадавіну сьмерці Ўладзімера Ільліча Леніна яны распаўсюджвалі проклямацыі, пляката, сьпявалі ў час дэманстрацыі, а таксама пасылалі аратараў у організацыі рабочых і сялян.

Дзеці выпусьцілі першую адозву ў час організацыі Лі-Ленскага атраду юных піонэраў. Тады было варашана аб'яднаць многа дзяцей: сумесна гуляць, чытаць, пісаць і сьпяваць. Выкінулі лёзунг:

*„Організуем нашых дзяцей, дапаможам нашым бацьком, братом, дзядзьком і сёстрам у барацьбе супроць нашых ворагаў—імпэрыялізму і мілітарызму“.*

*Гэта баявы лёзунг юных піонэраў.*

Апошняе слова гэтага лёзунгу дзеці будуць распаўсюджваць сярод усіх дзяцей працоўнага Кітаю.

**Ян-Му.**

時時準備

**СЫ-СЫ ТЧУМ-БЕЙ** *(Заўжды гатоў!—* **напісаны на кітайскай мове).**

童子軍

**ТУН-ЦЗЫ-ДЗЮН**—*(азначае слова „піонэр“ па кітайску).*

*) Павет правінцыі Ху-Нань у Кітаі.

# Маленькі сын Фана

*(З жыцьця кітайскіх дзяцей)*

Баваўная фабрыка вялікага кітайскага гораду Шанхаю.

Толькі што ў горад загляне бліскучае сонца і шэры змрок пазьнікне дзесьці далёка-далёка за морам,—работнікі, якія працавалі на фабрыцы ўначы, ідуць дамоў. З бледнымі, змучанымі абліччамі, паціраючы доўгія, тонкія рукі, якія ў бясьсільлі зьвісьлі з худых плячэй, яны йшлі, каб кароткім гадзінным адпачынкам загаіць боль усяго цела.

У гэты час работнік Фан заўсёды забягаў у парыльню, каб пацалаваць свайго маленькага сына Лі, які салодка, стомлены, спаў у невялічкай карзінцы.

О, колькі тут маленькіх хлопчыкаў ды дзяўчатак! Яны зусім маленькія, ёсьць ад 5 да 12 гадоў. Большасьць з іх сьпяць пад ваннамі, дзе выпарваюць баваўныя коканы, па розных куточках, дзе вярцеліся вялізарныя калёсы і жалезныя валы. Меншыя заўсёды любілі залазіць спаць у карзінкі з тонкай бамбукавай лазы.



*Кітайскія дзеці працуюць нараўне з дарослымі.*

Раніцу — такую прыемную, такую салодкую пару, для сну маленькіх зморaных дзетак перарываў заўсёды грозны „Капітан“. Ён заходзіў у парыльню, моцна лаяўся, і часта доўгаю, з валовага хваста пугаю лупцаваў па карзінах, дзе спалі дзеці.

Тады ўсхопліваюцца дзеці, хутка, сьпяшаючыся, худзенькімі ручкамі хапаюць з бляшаных каробак рыс, кідаюць у рот і пасьпешна глытаюць—жаваць няма калі. Стаяць дзеці на высокіх калодках ля ваннаў, такім чынам яны могуць даставаць з ванны коканы баваўны, зусім як дарослыя. Гэта праца малых. Большыя-ж бяруць каляскі-двохколкі і бягом ідуць на прыстань за вуглем.

І калі загудуць паравікі, заляскаюць маторы і гарачая вада паліецца да ваннаў—тады парыльня становіцца падобнай на кучу гною,—сьмярдзючая пара забівае дух, давіць у горле...

Тоненькая шаўковая нітачка любіць гарачую пару. Дзяцей за параю амаль што ня відаць, яны падобны на маленькія чучалы, якія толькі рухамі рук ды тулаваў сьведчаць, што гэта жывыя істоты.

Варацца ў гарачай вадзе шаўковыя коканы, а спрытныя пальчыкі хапаюць іх, шукаюць вольны канец нітачкі і заматваюць на шпульку. Бедныя дзеці! Яны ня маюць кіпцяў, кончыкі іх пальцаў скрываўлены, падобныя на кветачкі дзікай розы!

Яны без перапынку працуюць 7 гадзін, аж да абеду. На скорую руку хапаюць у рот колькі рысавых зернят, а пасьля зноў на 6 гадзін да ваннаў, за гарачыя коканы.

Увечары атрымліваюць за гэта па 6 цэнтаў на рыс, жабу і часамі хопіць на адно яйка. І гэтак кожны дзень...

Аднаго дня работнік Фан у астатні раз пацалаваў свайго маленькага Лі. У той час, калі маторы, надрываючыся, гулі і шалёна вярцелі махавіком ды валам,—якімсьці чынам пас... ухапіў Лі за яго парваныя штаны. Двойчы абкруціў яго наўкола вала, і ён ніколі ўжо не вярнуўся есьці рыс, хапаць гарачыя коканы з ванны.

Спалоханая, прыбітая горам матка ўхапіла разьбітае цельца Лі і пабегла прасіць да „Капітана“ лякарстваў.

Тады акіпела сэрца работніка Фана крывёю маленькага Лі. Рашуча паўстала думка змагацца за лепшае жыцьцё дзяцей, весьці барацьбу супроць капіталістых. Спаткаў яшчэ некалькі работнікаў, з запалам гаварыў ім, пераконваў паўстаць на барацьбу. Сьціснутыя зубы і рух моцнага кулака сьведчыў аб іх згодзе.



*Кітайскія піонэры аддаюць салют паднятым кулаком.*

Калі ён ішоў з работнікамі на начную зьмену, яго аблічча кіпела гневам. Гэта было клічам для работнікаў, якія спынялі працу і выходзілі з цэхаў. Усхваляваныя, яны з затоенай крыўдай і гневам групаваліся наўкола Фана, чуліся гукі абурэньня.

Зьнячэўку Фан выскачыў на скрынку, да крыві пракусіў свой палец, сарваў з работніцы белую хустку, і на вачох грознага „Капітана" напісаў на ёй першыя словы забастовачнай песьні:

**„Хто-ж пачуе наш крык"...**

І зазьвінелі тады тэлефоны:

— Забастоўка! Забастоўка!

Спынілі тады рабочыя працу, шырокаю хваляю выплылі на майдан, на чале з Фанам, вымагаць лепшага жыцьця для іх дзяцей...

Было-ж тады работы паліцыі . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі ўжо праз колькі гадзін на пляцы ляжаў нярухомы, скрываўлены Фан, і каля яго яшчэ шмат такіх Фанаў і некалькі маленькіх Лі.



# Што чытаць аб Кітаі

1) **Рагачэўскі-Брадзкі І.—Сучасны Кітай.** Кароткі соцыяльна-эканамічны нарыс з прадмовай Сэн-Катаямы—76 стар. 40 кап.

Напісана яна некалькі суха, але ня цяжка. З яе можна ўведаць многа цікавага аб Гаміндане, аб рэволюцыйнай партыі ў Кітаі, аб тым, як паступова зьняволіў кітайцаў замежны капітал, у якім становішчы прамысловасьць у Кітаі, аб рабочым руху, аб грамадзянскай бойцы. Маецца карта Кітаю і некалькі малюнкаў. Кніжка напісана для старэйшых дзяцей.

2) **Ціхонаў Н.—„Друг народаў".** Аповесьць для дзяцей старэйшага ўзросту—19 стар. 25 кап.

Гэта аповесьць з жыцьця Сун-Ят-Сэна. Аб тым, як мілітарыстыя (ваеншчына) падгаварылі бедняка-рыбака забіць Сун-Ят-Сена, спакусіўшы яго добрай узнагародай. Але бедняк ня змог забіць прыяцеля народа—сумленьне не дазволіла.

Кніжку вельмі добра чытаць голасна, расказваць. Для самастойнага чытаньня яе належыць даваць толькі старэйшым дзецям, гадоў 14—16. Малодшыя з яе мала чаго зразумеюць.

3) **Драздоў—Сын палача.** Выданьне „Зямля і фабрыка", 1927 г. цана 1 р,

Аповесьць з кітайскага жыцьця. Кітаец, які служыў у Чырвонай арміі, зьвяртаецца ў сваю родную вёску, яго арыштоўваюць, як бальшавіка, і бацька яго, кат, павінен казьніць свайго сына. Пры дапамозе браціка ён уцякае, і яны ўдвох вандруюць па Кітаі. Чытаць яе могуць дзеці з 13 гадоў.

## Што было надрукована аб Кітаі ў „Б. П".

1) У № 1-2 за 27 г.—нарыс аб дзіцячым руху ў Кітаі і наогул на Ўсходзе.

2) У № 7—апавяданьне „Ліу-Сім-Хай", з жыцьця кітайскага хлопчыка, над якім зьдзекваліся і які ўрэшце ўцёк з сваімі сябрамі ў дзіцячы прытулак ад сваіх катаў.

# ЗНАЧОК ЛЕНІНА

*(Апавяданьне з жыцьця баўгарскіх дзяцей)*

I

Густыя чорныя хмары навісьлі над небам у старым Загор'і (мясцовасьць у Баўгарыі). Яны буйным дажджом рассыпаліся на пяшчанай, балоцістай дарозе, па якой, змокшы, як кажуць, „да ніткі“, ішоў Міхалка.

Чамусьці Міхалка часта прыпыняўся, рупліва абмацваючы свае грудзі, і пасьля лёгка ўздыхаў, адчуваючы, што рэч, аб якой ён непакоіўся, знаходзіцца на месцы:

— Яна ў цэласьці!

Ці мала добрых рэчаў ёсьць на сьвеце? Але Міхалка ні за што-б не прамяняў маленькую гострую шпілечку са значком, на якім быў намалёван...

— Ленін!

Міхалка — маленькі баўгарскі ленінец. Бацька падараваў яму гэты чорны значок з наступнымі словамі:

— Вось хто сапраўды любіў дзяцей. Ты — ленінец, ты павінен насіць гэты вобраз. Прычапі яго да сваіх грудзей, — бо сэрца Леніна білася разам з нашымі і за нас!..

II

Мала было ленінцаў у школе, усяго толькі тры.

Міхалка ім паказаў значок, і яны ўтраіх паміж сабою парашылі: насіць будзем гэты дарагі значок кожны дзень пачарзе, адзін з іх. Гэта падслухаў Ігналік, сын мясцовага багацея, які адразу-ж пасьля вуроку пабег да дырэктара з даносам.

— Міхалка прынёс у нашу клясу Леніна, паказвае яго ўсім вучням і агітуе запісацца ў атрад... Іх дагэтуль было толькі тры, але сягоньня Міхалка запісаў яшчэ некаторых...

Дырэктар, пачуўшы гэта, аж падскочыў на месцы і запытаўся:

— Якога Леніна ён прынёс?

— Шпільку, а на ёй маленькі гузік з вобразам Леніна, яны носяць яго пачарзе кожны дзень...

* * *

Дырэктар школы крычаў, як зьвер, з пенай на вуснах, мятусіўся па клясе і патрабаваў паказаць яму Леніна. Яму паказалі.

Але калі ён захацеў забраць гэтую маленькую рэч, яна няпрыкметна зьнікла.

— Значка няма.

Пасьля гэтага выпадку Міхалку выключылі з школы за тое, што „дрэнна сябе трымае“. Разам з ім выключылі яшчэ 5 хлопцаў.

Калі Міхалка з сябрамі спускаўся па ступеньках школы, усе яны разам дружна зацягнулі „Інтэрнацыянал“, і маленькі значок зноў паказаўся на грудзёх Міхалкі.



*Бацька падараваў яму гэты значок.*

III

У мястэчку „ахранка“ працавала, як кажуць, „ва ўсю“. Кіраўнік Баўгарскай дзяржавы — кат Цанкоў — заліваў усю краіну крывёю рабочых і сялян.

Усюды, дзе толькі бачылі людзей, западозраных у прыналежнасьці да комуністычнай партыі і наогул у рэволюцыйнай чыннасьці, іх забівалі на месцы без усялякага жалю.

Сіратою застаўся і Міхалка. Яго бацьку застрэлілі ў лесе. Хацелі забіць і дзядзьку, але апошні ўцёк у горы і схаваўся там.

Адным застаўся пражываць у хаце Міхалка. Ён ня плакаў і наогул яму ня было сумна.

Да яго кожную ноч зьбіраліся юныя ленінцы і праводзілі час за чытаньнем рэволюцыйных кніжак, якія Міхалка даставаў у комуністых.

Маленькі значок, які ветліва ўсьміхаўся напалову зачыненымі вачыма Ільліча, як і раней, заўсёды знаходзіўся на грудзёх Міхалкі.

* * *

Адзін раз ноччу, калі хлопцы чыталі, раптам пачуўся моцны стук у вакно. Яны адразу схавалі кніжкі, потым адчынілі дзьверы.

У пакой увалілася група ўзброеных поліцэйскіх. Адзін з іх, вялікі рыжы мужчына з зьвярыным тварам, схапіў Міхалку за валасы і закрычаў:

— Вось дзе ён!

— Гэтую заразу трэба зьнішчыць, каб не назаляла!

Рыжы выхапіў рэвальвэр і выстраліў Міхалку проста ў рот.

Міхалку нешта ўдарыла па галаве, усё навокал пачало кружыцца. Ён паваліўся на падлогу і страціў прытомнасьць.

Астатнія дзеці патушылі лямпу, кінулі яе на катаў і ўцяклі праз вакно. Поліцэйскія—за імі.

Міхалка адзін застаўся ляжаць у лужыне крыві.

Бледны месяц сваімі срэбнымі праменьнямі асьвятляў яго цудоўны значок і адбіваўся ў ім.

IV

Быў канец лета. Ленінцы праводзілі Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

Яны працавалі падпольна! З усіх канцоў мястэчка, азіраючыся навокал, краліся дзеці і прыходзілі на могільнік— месца іх збору.

У першы дзень Міжнароднага Дзіцячага Тыдню ўсе дзеці мясцовай беднаты сабраліся на могілцы Міхалкі. Было каля



*Рыжы выхапіў рэвальвэр і выстраліў Міхалку проста ў рот.*

150 дзяцей, усе ў чырвоных гальштуках. Павадыр атраду, дзўнейшы сябра бесчасова загінуўшага хлопчыка, Цімка, гаварыў:

— Мы знаходзімся на Міхалкавай магілцы. Ён першы пачаў заклікаць нашых дзяцей на барацьбу з катамі працоўнага люду і організоўваць іх у атрад. За гэта забіла паліцыя нашага дарагога таварыша.

— Мы, піонэры, зьяўляемся для буржуазіі вострай шпількай, мы не даем ёй спакою... Мы колем іх у сэрца, але забіць нас усіх, як Міхалку, ім ня ўдасца... Бо сёньня забілі аднаго, заўтра яго заменяць дзесяткі...

* * *

Міхалка ляжаў у магілцы і нічога не адчуваў. Ён ня бачыў таго, што дзеялася над паверхняй зямлі, ня чуў урачыстага абяцаньня 150 маладых ленінцаў, адамсьціць за яго сьмерць.

Ня яго магілцы ляжаў прыгожа сплецены дзіцячымі рукамі вянок, да якога была прычэплена вядомая нам шпілька, з тварам Ільліча.

**Гэнры Свэдж.**

# ДВА МОМАНТЫ

## У іх

Ціхая летняя раніца.

Месяц жнівень.

На вуліцы вялікага нямецкага гораду, ня гледзячы на раньні час, быў вялікі рух.

Усюды мільгаюць вясёлыя дзіцячыя твары...

Вось разьвейваецца вялікі чырвоны сьцяг.

Чырвоны колер гальштукаў зьліваецца паміж сабою ў вялікае вогнішча...

Сёньня — першы дзень Міжнароднага дзіцячага тыдню. Дзеці сьпяшаць у школы, каб калектыўна адсьвяткаваць гэты дзень дэманстрацый. З дзьвярэй кожнага двара выходзяць штохвіліна дзесяткі дзяцей у чырвоных гальштуках.

Шум, рогат, жарты...

* * *

Але паліцыя таксама ня дрэмле. Яна таксама падрыхтавалася да „дэманстрацыі“.

Яна таксама падрыхтавалася да „дэманстрацыі“ сваёй моцы перад няўзброенымі дзяцьмі. Яшчэ ўчора быў дан па гораду загад аб забароне зборняў на вуліцах, аб забароне наладжваньня якіх-небудзь мітынгаў, сходаў...

Вялізарнае памяшканьне паліцэйскага ўпраўленьня кожную хвіліну выкідае атрады паліцэйскіх „дубінак“...

Атрады накіроўваюцца ў розныя бакі для акружэньня школ.

Твары ў паліцэйскіх таксама вельмі весела выглядаюць. Наперадзе—разгон дубінкамі дзіцячых сходаў, а стычка з дзяцьмі дае паліцэйскім вялікую задаволенасьць.

Паліцыя ня сьпіць...

А дзеці і не падазраюць аб замерах паліцэйскіх...

З кожнай хвілінай памяшканьні школ напаўняюцца дзяцьмі.

Пачаліся мітынгі.

Ва ўсіх раёнах гораду праводзяцца даклады аб значэньні міжнароднага дзіцячага тыдню.

Усе ўважліва слухаюць. Упіваюцца вачыма ў твары дакладчыкаў.

* * *

У школе, на акраіне гораду, сход, прысьвечаны Міжнароднаму дзіцячаму тыдню, праходзіць з вялікай жывасьцю...

Раптам на вуліцы раздаецца шум...

Вось ён усё бліжэй і бліжэй... Вось можна адрозьніць топат вялікай колькасьці ног.

Усе твары паварачваюцца ў кірунку да дзьвярэй.

Заля заціхае...

Праходзіць некалькі цяжкіх хвілін невядомасьці...

Урэшце, дзьверы расчыняюцца і ў залю праціскаецца таўстапузая фігура паліцэйскага начальніка.

* * *

— За-гад-ваю ра-зый-ці-ся! — раве голас таўстапузага быка. Дзеці былі ашаламучаны.

— Ну-с. Ра-зый-дзі-ся!

Тоўстая фігура паліцэйскага расьсьмяшыла дзяцей. Рогат пракаціўся па залі.

— А... в-вы сьмяяцца! Ну-с, па-прашу-ка во-о-н!!! — вышаў з сябе палісмэн.

І, азьвярэўшы, моцна выцяў нагою першую папаўшуюся дзяўчынку.

У залі пачуўся плач дзіцяці.

Гэта выклікала выбух негадаваньня масы дзяцей:

— Гля-дзі, таўстапузы. Разышоўся.

Дзеці масаю кінуліся на паліцэйскага. Таўстапузы дзядзюшка быў звален лавою дзіцячых ножак.

---

**Няўдалая агітацыя.**

(З замежнага жыцьця).



**Ксёндз да піонэра:** Камуністыя—гэта людзі, якія нічога ня робяць, а толькі ядуць...

**Піонэр:** Дык тады вас. значыцца. трэба лічыць першым камуністым,—ваш жывот аб гэтым сьведчыць.

Шапка валялася з аднаго боку. Рэвальвэр—з другога.

Паліцэйскі пасьпеў толькі сьвістком паклікаць сабе на дапамогу таварышоў.

Нагайкі, дубінкі загулялі па сьпінах неабароненых дзяцей. Крыкі паліцэйскіх, плач дзяцей—усё зьмяшалася ў нясьціханы гул. Сход быў разагнаны вельмі хутка.

Дакладчыкі і главары былі арыштаваны і пасаджаны ў турму.

Такім-жа чынам былі разагнаны і іншыя сходы дзяцей у розных частках гораду.

Дзецям неўдалося адсьвяткаваць свой міжнародны дзень.

Паліцыя сьвяткавала перамогу над няўзброенымі дзяцьмі.

### У нас.

Моцна прыпякае сонца.

Сёньня першы дзень міжнароднага дзіцячага тыдню.

Доўгія вуліцы вялікага гораду Савецкага Саюзу іскрацца чырвонымі гальштукамі...

Наперадзе мільгануў чырвоны сьцяг. Барабан выбівае дроб. Юныя піонэры атрадамі накіроўваюцца да плошчы.

— „Мы юю-ныя спарта-аа-кі“...

Гукі ленінскай песьні льлюцца па вуліцах. Льлюцца ўпярод—за горад, да плошчы...

Адзін за другім іх падхопваюць атрады юных піонэраў. І паветра прарэзваецца водгукам маладых галасоў.

Вось праходзяць калёна за калёнай юных ленінцаў...

— Ра- а-аз. Два-а. Тры-ы. Ча-ты-ры... З трыбуны даносяцца, прарываемыя гукамі „Інтэрнацыяналу“, прамовы і прывітаньні.

Юным піонэрам СССР ня прыходзіцца баяцца, што паліцыя разгоніць дэманстрацыю. У СССР няма паліцыі...

Гукі аркестру заглушаюць аратара. Выступае маленькі 12-гадовы піонэр:

— Мы, дзеці рабочых і сялян, тысячамі вышлі на вуліцы пад гукі барабана, стараючыся даказаць сваю салі-




На паветраным шары плякат з надпісам: „Выбірайце камуністаў“. Паліцэйскі рад-бы сарваць яго, ды рукі кароткія. (*З часопісі нямецкіх піонэраў*).

дарнасьць сваім бацькамі, з працоўнай клясай.

*Няхай жыве Міжн. Дзіцячы Тыдзень!*

Мітынг закончыўся. Пачаліся гульні.

*Піонэры СССР вольна адсьвяткавалі свой дзень.* Піонэр **Якаў Цэханскі.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

## ПЕСЬНЯ

**Чырванее Усход**
**Заранічаю,**
**Запалаў небазвод**
**Навальніцаю.**
**Кліча песьня на бой**
**Гулказвонная...**
**Мы ідзём грамадой**
**Міліённаю...**
**Ўюцца сьцежкі ўпярод,**
**Завіваюцца.**
**Каля рэчкі чарот**
**Пахіляецца.**

**Абступае чарот**
**Ды пытаецца:**
**„Што за люд, за народ**
**Прабіраецца?“**
**„Ой, чыя-ж гэта раць,**
**Чые воіны,**
**Што так песьні зьвіняць,**
**Сілы ўздвоены?“**
**А мы йдзем дзень і ноч**
**Той дарогаю,**
**Межы рвём, рушым проч**
**Перамогаю.**

**Сонца сьвеціць нам днём,**
**Ноччу—зоранькі.**
**Мы-ж ідзём ды ідзём,**
**Што нам ворагі?**
**Льлецца песьня у даль**
**Гулказвонная,**
**Йдзе ўпярод грамада**
**Міліённая.**
**Чырванее Усход**
**Заранічаю.**
**Запалаў небазвод**
**Навальніцаю.**

Піонэр **Ю. Таўбін.**

# ТВОРЧАСЬЦЬ ПІОНЭРСКАГА МАЛАДНЯКА

**Сярод дзяцей—піонэраў і вучняў—выяўляюцца багатыя здольнасьцю творчыя сілы. Некаторыя з іх прабуюць сваю здольнасьць і ў мастацтве. Ніжэй мы зьмяшчаем асобна цэлы мастацкі аддзел, напісаны выключна нашымі чытачамі—піонэрамі і вучнямі.**

## За кнігай

Шэрыя хаты ў кучы
Ціха, панура стаяць,
А над страхой пабялелай
Вязы, топалі шумяць.

Вецер за вугалам гуляе,
Ўсюды сьнягі заляглі...
Ў хаце ўнук дзеду чытае
Кніжку, што ў школе далі.

Дзедка стары, барадаты,
Ціха, сагнуўшыся ў крук,
Слухае ён, што чытае
З кнігі яму яго ўнук.

Вочы ўнукавы шпарка
Бягуць ад радка да радка.
Рад Янучок, што ўжо можа
Кніжку чытаць для дзядка.

К. Шавель.



*Піонэр* **К. Шавель,** *аўтар вядомых нашым чытачом казак*—**Шустры вожык і Камень.** *Вучыцца т. Шавель у Узьдзенскай сямігодцы.*

## Вясна

Разарваліся вялікія шэрыя хмары, якія хавалі ўсю зіму яснае сонейка, сыпалі халодным сьнегам на заснуўшую зямлю.



Малюнак піонэра Замскага.

Сонейка глянула з-за хмар і засьмяялася.

— Прышла вясна! — сказала яно.

І, пачуўшы гэта, вялікія грудзы сьнягоў, на якія сонца пачало ліць свае гарачыя праменьні, заплакалі. Болей і болей сьлёз цякло з іх, і яны ўсё зьмяншаліся. Сьлёзы капалі з дрэваў, на якіх быў сьнег, з стрэхаў, з платоў, але больш за ўсіх плакалі вялікія гурбы.

— Сьнег растае,—казалі людзі:—прышла вясна!

А сьлёзы гурбаў зьбіраліся і цяклі равочкамі. Весела беглі яны ўсё далей і далей і будзілі ўсё жывое.

— Прышла вясна!—раўлі яны і цяклі да ракі, якая яшчэ спала і ня ведала, што робіцца на зямлі.

— Прачніся!—гаварылі яны ёй:—Прышла вясна!

І рака пачула іх галасы і прачнулася. Яна ўбачыла сонца і з радасьці пачарнела. Але лёд быў яшчэ вельмі тоўсты і моцна трымаў у сваіх ланцугах скаваную раку. І рака пачала зьбіраць сілы.

А ў небе чутны былі новыя галасы: гэта з выраю ляцелі птушкі.

— Добры дзень!—сказала ім сонца:— Прышла вясна!

— Прышла вясна!—адказалі яны і, радасна замахаўшы крыльлямі, паляцелі і апусьціліся ў родных балотах і лясох. Прайшло яшчэ некалькі часу, і прыляцелі другія птушкі.

А ў гэты час на рацэ ўжо трашчаў лёд, і вялікія горы крыгаў нясьліся на хвалях далёка-далёка ў мора.

— Прышла вясна,—сьпявала рака.

І яна пачала выступаць з берагоў і заліваць іх. З усіх палёў беглі да яе равочкі і яна ўсё паўнела. Сьнег увесь растаў, толькі ў лесе ён яшчэ захаваўся. Паказалася травіца, а лес пачаў патроху распускаць свае пупушынкі.

— Прышла вясна,—гаварыў ён.

Вось згінуў апошні сьнег. У паветры лягалі мухі, камары, жукі.

— Прышла вясна,—гудзелі яны.

— Прышла вясна,—сказала сонца селяніну.—Працуй! Я сагрэю твае пасевы і яны ўзойдуць. Сырая зямля будзе ім маці.—І селянін узяў плуг, барану і пачаў працаваць. Закіпела праца на полі, у агародзе. Селянін араў, сеяў, баранаваў, капаў грады, саджаў. Потым усё ўзышло, палі зазелянелі збожжам; яблыні, грушы, вішні, сьлівы — пакрыліся кветкамі. На лузе, які ўжо вызваліўся ад вады, пасьвілі статкі. Чутно было, як трубіў пастух, раўлі каровы. Яркія кветкі стракацілі палі і лугі. Усе радаваліся, што прышла вясна.

**М. Беляко̂ўскі.**

# Вясновыя ночы

*Юнацкія песьні*
*Ліюцца ракой:*
*Вітаюць прыгожасьць*
*Вясны маладой...*
*І зоры зайгралі,*
*І месяц усплыў*
*І сінія далі*
*Палёў асьвяціў...*
*У полі на волі*
*Красуе прастор,*
*А вольныя думкі*
*Імкнуцца да зор.*
*І радасьць мігае,*
*Як зораў агні,*
*Ды буйнымі песьнямі*
*Поле зьвініць.*
*Юнацкія песьні*
*Ліюцца ракой:*
*Вітаюць прывольле*
*Вясны маладой!*

**Міх. Багунец.**

# Наша сіла — ніва ды машына

У Мікіты з Аўдоцяй былі сынок Кастусь ды дачка Марыська. Кастусь быў старэйшы, а Марыська—малодшая. Жылі яны ў вёсцы. Гаспадарка іх была ў заняпадзе. У той час, калі ў пана стаяла дзесяткі коняй у добрай стайні, якія добра елі, стаялі ў чыстаце, у Мікіты была адна худзенькая сіўка. Пан і панскія дзеці былі апрануты ў пекныя, дарагія кашулі, жылі ў прыгожым палацы, смачна елі і пілі.

У Мікіты-ж было зусім інакш: худзенькая маленькая сіўка стаяла ў паўзгніўшым хляве, дзе быў бруд; ела яна сена з саломай і сечку. Дзеці былі ў парваных, брудных кашульках. Елі чорны, засохшы хлеб і жылі ў маленькай, пахіленай на бок хаце. Цацак у Кастуся з Марыськаю ня было, а гулялі яны з каменьчыкамі ды з жоўценькім пясочкам.

Тады, калі панскія дзеці мелі розныя цікавыя кніжкі з прыгожымі малюнкамі і хадзілі ў школу—Кастусь з Марыськаю нічога гэтага ня мелі.

Вось якая розьніца была між панам і селянінам. Паны ішлі за навукай, мелі сілу—мелі ніву. А сяляне ня мелі нівы— ня мелі і сілы.

Вось, як прышла Кастрычнікавая рэволюцыя, тады толькі сяляне сталі свабоднымі. Кастусь з Марыськаю пайшлі за навукаю. І тады толькі, калі сяляне атрымалі зямлю, яны пачалі наладжваць сваю гаспадарку. І ў Мікіты пачала шпарка разьвівацца гаспадарка, дзякуючы Кастусю з Марыськаю, якія пайшлі за навукаю.

У пана была ніва—у пана была сіла. *Забралі працоўныя ніву—забралі сілу. Наша сіла—ніва ды машына.*

**Валянцін Шушкевіч.**

# Поп-вораг

*(З апавяданьня чырвонаармейца)*



Быў час грамадзянскай бойкі. Пядзю за пядзяю адбіралі ў Калчака яго заваёвы, паліваючы іх сваёю крывёю.

N-ая дывізія падыходзіла да вёскі. Па вестках разьведкі, у вёсцы белых ня было. Але толькі што мы падышлі да першых хатаў, як ні з таго ні з сяго пачалі сыпацца на нас кулямётныя стрэлы з царкоўнай званіцы. Кінуліся мы туды—няма нікога. Падазрэньне было на папа. Пытаемся ў сялян беднякоў:

— Хто тут у вас супроць Савецкай улады?

Ня кажуць.

— Гэтакіх у нас няма, хіба поп можа...—няўпэўнена адказвалі некаторыя.

Поп-жа і багацеі нас з хлебам ды сольлю сустракаюць, падлізваюцца, белых лаюць.

На другі дзень нашы перадавыя часткі пашлі далей усьлед за белымі. У вёсцы застаўся штаб. Неўзабаве поп быў злоўлены ў падвале царквы разам з кулямётам. За контр-рэволюцыйныя выступленьні яго застрэлілі.

**Я. Мышкоўскі.**

# Я спаткаў вясну

На палёх далёкіх, дзе вада ліецца,
Дзе плюскоча рэчка,—я вясну спаткаў.
Жартаваў я з сонцам, чуў яго усьмешкі.
Гэты дзень я шчыра, шчыра пакахаў.

***

Я спаткаў сягоньня новы дзень вясёлы...
Неба красавалась новаю зарой,
Радаснае сонца усьміхнулась долам
І плыло, як човен, ціха над зямлёй.

***

Хвалямі ліліся рэчкі у прасторах,
У іх сонца бліскі золатам зьляглі.
А вясеньняй ночкай красаваліс зоры
І у сінім небе гутарку вялі.

***

Гэты дзень спаткаў я на прывольлі сьветлым,
Дзе калісьці плакаў белы віхар злы,
А цяпер тут сонца шчырасьцю прыветнай
Рассыпае шчасьце радаснай вясны.

***

Чуў я песьні птушак, што вакол зьвінелі,
Рэзалі паветра сьпевам маладым,
Бачыў я, як птушкі на прастор ляцелі
І як пелі звонка песьні салаўі.

***

На палёх далёкіх, дзе сьмяюцца рэчкі
І дзе воды льлюцца, я вясну спаткаў..
Гаварыў я з сонцам, чуў яго усьмешкі,
І вясну я вельмі шчыра пакахаў.

**Ал. Розна.**

# ПАЛЯПШАЕМ СВАЮ РАБОТУ

## Выстаўка працы піонэраў

*(Рагачоўскі раён, Бабруйскае акр.)*



Каб праверыць, што робяць піонэрскія атрады і як пастаўлена праца па набыцьцю тэхнічна-працоўных навыкаў, Рагачоўскі райком Комсамолу правёў раённую выстаўку гэтай працы. За месяц да выстаўкі была разгорнута падрыхтоўчая праца ў атрадах. Кожны атрад рыхтаваўся да выстаўкі, і ўсе з нецярплівасьцю чакалі яе. Ужо за тыдзень да выстаўкі атрады пачалі прыносіць зробленыя рэчы, а к дню выстаўкі—10 красавіка—было столькі матар'ялу, што мы гэтулькі і не чакалі.

### Што было на выстаўцы?

Мадэляў на выстаўцы было каля 60, з якіх больш характэрнымі зьяўляюцца: цягнік з вагонамі, ветраны млын, выгляд памяшканьня дзятдому, маўзалей Леніна, 2 мадэлі самалёту, выгляд дрэваапрацоўчага заводу і шмат іншых рэчаў, больш характэрных для гарадзкога жыцьця.

Мадэлі, адбіваючыя вясковае жыцьцё: ручная крахмалка, якою можна карыстацца ў гаспадарцы (праца 2-х вясковых піонэраў), 3 ткацкіх варстаты (кросны), з якіх на 2-х маюцца кавалкі вытканага палатна, 2 самапрадкі, плуг, барана сан, конская вупраж і іншае.

Вялікую ўвагу гледачоў зьвярнула на сябе праца гуртка рукадзельля пры Цэнтральным піонэрклюбе. Былі досыць добрыя рэчы, якія адбіваюць гарадзкое і вясковае жыцьцё. Нельга не сказаць і пра ўдзел акцябрат у выстаўцы, матар'ял якіх вельмі зацікавіў гледачоў выстаўкі: выразкі, будынкі з кардону, праца па рукадзельлю і інш.

### Уражаньні аб выстаўцы

Думка саміх піонэраў аб выстаўцы выявілася на сходзе гарадзкой піонэрорганізацыі, які адбыўся ў першы дзень выстаўкі.

Нябывалы настрой. Пад воплескі прымаецца прапанова піонэра аб організацыі гурткоў па тэх. навыках пры атрадах і клюбах. У дадатак прымаецца прапанова: праз 2 месяцы правесьці другую выстаўку.

Ня толькі піонэры, але і іх бацькі—рабочыя, настаўнікі, чырвонаармейцы—і ўсе дзеці былі надта здаволены гэтай выстаўкай. „Проста ня верыцца, каб гэта была праца дзяцей-піонэраў",—так

запісаў у „сшытку ўражаньняў“ сваю думку рабочы заводу. „Вось гэта і ёсьць пачатак карысна-цікавай працы піонэраў, што заслугоўвае пахвалы. Аддзел рукадзельля настолькі добры, аж зьдзівіцца можна“,—піша матка і ў дужках дадае:—„Там ёсьць і праца маёй дзяўчынкі-піонэркі“. Так адгукнуліся аб выстаўцы тыя, хто яе наведваў.

### Што трэба надалей

Выявілася, што піонэры любяць майстраваць, але атрады іх неорганізоўваюць. Тэхнічных гурткоў амаль што ня было як пры піонэрскіх клюбах, так і пры атрадах.

Адсюль вывад, што трэба гэту работу праводзіць організавана. Дзе ёсьць магчымасьць—організаваць гурткі пры піонэрскіх клюбах. У атрадах ёсьць майстры-адзінкі—іх трэба выявіць атраду і дапамагчы ім у рабоце.

Выстаўка—як першы вопыт — сябе апраўдала.

**А. Рутман.**

## Бярэце прыклад

Масавыя вечары і пагулянкі—гэта найлепшы спосаб працы сярод неорганізаваных дзяцей...

Шмат думалі нашы піонэры над тым, як наладзіць працу сярод неорганізаваных дзяцей. Некалькі разоў прабавалі рабіць сходы неорганізаваных дзяцей, але на іх ніхто ня прыходзіў: сухія сходы ня цікавілі іх.

Ня сухімі сходамі можна прывабіць неорганізаваную дзетвару, а толькі масавымі, вясёлымі вечарамі і пагулянкамі.

Гэта можна ўбачыць на вопыце старобінскіх піонэраў.

Першы такі вечар для неорганізаваных дзяцей мы наладзілі ў дзень Чырвонай арміі. На гэты вечар прышла ўся дзетвара мястэчка. Програма вечару была наступная:

Перш пелі прыпеўкі і частушкі пад гармонік; пасьля рабіў успаміны стары чырвонаармеец. Успаміны былі цікавыя—аб паляках і г. д. Потым піонэры, вучні і іншыя дзеці расказвалі вясёлыя апавяданьні, дэклямавалі, пелі, хто што ўмеў. У канцы скакалі пад гармонік казака і г. д. Вечар закончыўся прамовай правадыра.

Гэты вечер дзецям вельмі спадабаўся. Два другія такія вечары прайшлі яшчэ лепш. Усе неорганізаваныя дзеці, якія раней не хацелі к нам хадзіць, цяпер ідуць з ахвотай.

Масавыя вечары для дзяцей мы праводзім амаль кожны тыдзень, што дае нам магчымасьць весьці працу сярод неорганізаваных дзяцей нашага мястэчка.

Я раю ўсім атрадам практыкаваць гэткія вечары, бо гэта лепшы спосаб працы сярод неорганізаваных дзяцей.

(М. Старобін. Случчына).

**Рыклін.**

## Організавалі гурток юнатаў

Шмат піонэраў хочуць заняцца вывучэньнем прыроды і свайго краю.

Гэтай справай зацікавіліся і піонэры нашага атраду. Мы організавалі гурток юнатаў, які ахоплівае 20 чалавек. Гурток разьбіты на групы: птушнікаў, аматараў акварыуму [1]), тэррарыуму [2]).

У сучасны момант мы вывучаем разьвіцьцё пупушынак дрэў, разьвіцьцё красак і г. д.

Покуль што працай не ахоплены ўсе піонэры. У далейшым гэты недахоп зьнішчым.

Кіруе гуртком настаўнік, які вельмі зацікаўлен гэтай працай і шмат чым дапамагае гуртку. Спадзяемся, што вынікі будуць добрыя.

Кепскавата тое, што няма сродкаў на сеткі, шкло і іншыя рэчы, але агульнымі сіламі мы даб'емся свайго.

(М. Вушачы, Полаччына).

**Зьмітрок Хвойка.**

---

[1]) Акварыум — шкляная пасудзіна, дзе гадуюць злоўленых рыб.

[2]) Тэррарыум—клетка з шклянымі сьценкамі з зямлёю, дзе гадуюць жаб, кратоў і г. д.

# ДНЕПРАБУД

У нашым Савецкім Саюзе ідзе шпаркая праца па адбудоўцы буйнае прамысловасьці, каб вызваліць нас ад залежнасьці ад капіталістычных краін, у якіх нам прыходзіцца купляць розныя рэчы, галоўным чынам, машыны. Раз за разам пускаюцца ў ход „замарожаныя“ ў цяжкія часы грамадзянскай вайны фабрыкі, заводы,—будуюцца і адчыняюцца новыя волаты прамысловасьці. Патрэбна шмат сілавой энэргіі, галоўным чынам—электрычнасьці, каб прывесьці ў рух машыны фабрык, заводаў, транспорту. А гэтая энэргія ў нас каштуе яшчэ вельмі дорага, бо патрабуе шмат вугалю, дроў, торпу, нафты, якіх здабываць і цяжка і нятанна.

Шукаючы таннай энэргіі, думкі рабочасялянскага ўраду імкнуцца да скарыстаньня дарэмнай сілы нашых магутных рэчак. Дзяржава вымяркоўвае сродкі, каб пабудаваць вадзяныя электрастанцыі (гідраэлектрастанцыі).

Ужо адчынена і падае энэргію ў Ленінград Волхаўская г.-э. станцыя („Бел. Піон.“ г. № 2), будуецца Сьвірская г.-э.с. (каля Ленінграду), нядаўна заблішчала Зэмя-Аўчальская г.-э.с. ў Закаўказьзі, пачаўшы скарыстоўваньне горных рэчак Каўказу.

І нарэшце, урад СССР зацьвердзіў праэкт і пачаў будоўлю самай вялізарнай і магутнай у Эўропе гідраэлектрастанцыі,—на 650 тысяч конскіх сіл,—на Дняпры ніжэй яго парогаў (каля Запарожжа), недалёка ад буйнага прамысловага гораду УССР—Днепрапятроўску (былога Кацярынаслаunion).

Надзвычайна многа цяжкасьцяй і сродкаў патрабуе гэта пабудоўка. Папершае, трэба перагарадзіць шырокую рэчку магутнай грэбляй, каб узьняць на патрэбную вышыню ўзровень вады, якая, падаючы, аддасьць сваю энэргію машынам. Вось гэта грэбля—даўжынёй на 767 мэтраў, а вышынёй—ад падставы—60 мэтраў, будзе зроблена з жалезабэтону. Яна затрымае плынь рэчкі, і вада, узьняўшыся на 37 мэтраў вышэй ранейшага ўзроўню, зальле каменныя парогі і разальлецца шырокім возерам аж да Днепрапятроўску. У сярэдзіне (унутры) грэблі будуць зроблены вялізарныя трубы, па якіх вада стромка пабяжыць у камэры аграмадных вадзяных турбін, дзе, націскаючы на лопасьці турбіны, прывядзе іх у шпаркі рух, і, выканаўшы сваю працу, выльлецца ўнізе з другога боку грэблі. Кожная турбіна дасьць па 50 тысяч конскіх сіл. Усе яны (13) будуць усталёваны пад электрастанцыяй, якая будуецца на грэблі, блізка берагу. На адным старчаковым вале з кожнай турбінай прыстасоўваецца генэратар, які выр абляе электрычны ток. З генэратараў ток пераходзіць у трансфарматары, якія павялічваюць напружа-




Разрэз праз адну з турбін станцыі. Тр—турбіна, Г—генэратар, В—выключацелі, Т—трансфарматары. Лічбы абазначаюць узровень вады ў мэтрах. Верхні ўзровень—у паводку, ніжні—у сухі час.

насьць току да вялікай моцы (120 тыс. вольт). Па таўстому змотку дроту (кабэлю), які прымацоўваецца да жалезных слупоў,—такі ток з электрастанцыі пацячэ да спажыўца,—на фабрыкі, заводы, шахты, на асьвятленьне.

Днепрабуд шпарка ўздыме і пашырыць мэталёвую прамысловасьць усяго поўдню СССР. Дзякуючы багацьцю ў гэтым раёне каменнага вугалю (Данецкі басэйн), жалеза (Крывы Рог) і іншых выкапняў, пры дапамозе Дняпроўскай г.-э.с., там будуць пабудаваны новыя заводы і фабрыкі, якія аб'яднаюцца ў „камбінат“ (такое злучэньне, калі апрацоўваецца

аднолькавы сыры матар'ял, карыстаючыся адной крыніцай энэргії). Гэты „камбінат" будзе вырабляць галоўным чынам розныя машыны, так патрэбныя для нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Значэньне Днепрабуду павялічваецца яшчэ і тым, што, дзякуючы грэблі, узьнятая вада пакрые славутыя Дняпроўскія парогі на столькі, што над імі пройдуць самыя вялікія судны—параходы, бэрліны і інш. Каб прапусьціць іх праз грэблю, будзе зроблены абходны канал са шлюзамі. Такім чынам, Дняпро зробіцца суднаходным ад вярхоўяў (Беларусь) да самога Чорнага мора, і тавары ад нас з Беларусі (лес) і да нас (соль, рыба, машыны) можна будзе перавозіць танна і без перагрузкі.

Праца на Днепрабудзе ўжо распачалася. Туды накіроўваюцца рабочыя, шмат будаўнічых матар'ялаў і прыладаў. Туды праводзіцца чыгунка (ветка). Для рабочых будуецца цэлы гарадок, утвараецца ўсё патрэбнае, каб забясьпечыць пасьпешную працу.

Да працы прыцягнуты выдатнейшыя нашы інжынэры-будаўнікі. Праэкт пабудовы разгледжаны і ўхвалены чужаземнымі спэцыялістымі, асабліва амэрыканцамі, якія маюць вопыт пабудовы такіх станцый.

Праца разьлічана на 5 гадоў. Па праэкту, уся пабудова „Дняпроўскай




Плян станцыі. Г. Э. С.—памяшканьне станцыі, Т. П.—трансфарматарная падстанцыя, 1 і 2 лінія—электраперадачы.

Гаць выпукласьцю зьвернута ўверх па плыні ракі, за его возера.

электрастанцыі (з выкліканымі ёю дадатковымі працамі) будзе каштаваць блізка 150 мільёнаў рублёў. Выдаткі гэтыя разьмяркоўваюцца прыблізна так: 1) пабудоўка грэблі—40 міл., 2) гідраэлектрастанцыя—40 міл., 3) канал са шлюзамі—18 міл., 4) лінія электраперадачы—12 міл., 5) выдаткі на перасяленьне насельніцтва з месц, якія зальлюцца вадой—10 міл. і 6) пабудоўка чыгункі—30 міл.

Але гэтыя вялізарныя выдаткі хутка аплацяцца, бо электрычная энэргія з Дняпроўскай э.-с. будзе каштаваць у 6—8 разоў таней за паравую,—і кожны год будуць захоўвацца дзесяткі мільёнаў рублёў. Разам з гэтым ажыве і ўзварухнецца цэлая краіна, вырастуць новыя гарады, і шмат працоўных найдзе працу на новых фабрыках і заводах.

**С. Ж.**



**„Сам зрабіў сабе радыё-прыёмнік, а цяпер слухаю".**

# Дапамагаем галадаючым дзецям Зах. Беларусі

Даведаліся мы, што ў Заходняй Беларусі дзеці паміраюць з голаду. Парашылі зрабіць збор грошай, каб дапамагчы ім. І вось вучні-піонэры 5-ае клясы нашае школы сабралі 2 р. 50 кап. Усе дзеці ахвотна давалі грошы.

Таварышы! Трэба дапамагчы сваім братом і сёстрам—дзецям Заходняй Беларусі.

Мы прапануем, *каб усе школы зрабілі такія зборы на карысьць дзяцей Заходняй Беларусі.* **А. Люкумовіч.**

(М. Любонічы, Бабруйшчына).

# Ячэйка МОПР'у працуе

Пры нашай школе маецца ячэйка МОПР'у. Яна налічвае ў сваіх шэрагах 60 сяброў. Ячэйка арганізавала падпісны ліст на карысьць дзяцей Заходняй Беларусі, якім сабрала сярод вучняў і піонэраў 8 руб.

Хоць трошка, але дапамаглі!

**Гамэлька Аляксей.**

(Талочынская сямігодка, Аршаншчына).

# Паштовая скрынка

**Курсанту.** „Пра фото-карткі"—ня пойдзе. Зьвярніся ў райком комсамолу.

**Фінкелю, Ш.** Твой допіс „Крызіс у піонэр-організацыі" да друку не падыходзіць. У допісе няма фактаў, а маюцца агульныя разважаньні, усім ужо вядомыя з іншых артыкулаў кіраўнічага характару.

**Каратковічу, А.** У допісе „Наш атрад расьце" нічога амаль што не гаворыцца аб конкрэтнай працы атраду. Пішы, што зрабіў добрага і што робіць ваш атрад.

**Ярошыку і Астроўскаму.** Вы пішаце, што ячэйка зусім ня йдзе насустрач атраду ў адшуканьні клюбу і не дае кіраўніка. Бязумоўна, такое становішча ненормальнае. Трэба яшчэ раз паставіць пытаньне аб гэтым на агульным сходзе ячэйкі.

**Гарэцкаму, С і Кравякову, Б.** Пішэце лепш, як праводзіла ваша зьвяно заданьні, а ня тое, што яму даручана правесьці. Допіс „Праца 2-го зьвяна" не падыходзіць да друку.

**Таўбіну, Ю.** Твае вершы некаторыя зьмяшчаем. Тыя, якія ня будуць зьмешчаны, не падыходзяць да друку.

**Замскаму.** Твой адзін малюнак зьмяшчаем. Іншыя выкананы куды слабей.

**Сяміжону.** За допісы рэдакцыя ганарару ня плаціць. Часопісь рэдакцыя раіць выпісаць усім вучнёўскім колектывам, дзеля чаго гэта пытаньне трэба абгаварыць на сходзе вучняў ці на вучкоме.

---

Усім таварышам, якія прыслалі мастацкі матар'ял, будзе дадзены адказ у № 10 асобным артыкулам.

---

## ТАВАРЫШЫ ЧЫТАЧЫ!

**Не прапускайце тэрміну па збору падпіскі на конкурс.**

**Організуйце ўсю дзетвару вакол гэтай справы.**

**Чытайце ўмовы конкурсу.**

---

**ХТО ХОЧА ВЫЙГРАЦЬ = 50 РУБЛЁЎ? =**

РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСІ

## „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР"

**ХТО ХОЧА ВЫЙГРАЦЬ = 50 РУБЛЁЎ? =**

## У ЛІПЕНІ 1927 г. БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЬ РОЗЫГРЫШ РОЗНЫХ РЭЧАЎ НА СУМУ 260 р.

| | | |
|---|---|---|
| 1 ВЫЙГРЫШ | . | . 50 РУБ. |
| 2 ВЫЙГРЫШЫ | ПА . | . 30 РУБ. |
| 3 ВЫЙГРЫШЫ | ПА . | . 20 РУБ. |
| 4 ВЫЙГРЫШЫ | ПА . | . 10 РУБ. |
| 10 ВЫЙГРЫШАЎ | ПА . | . 5 РУБ. |

**Кожны атрад, школа, асобны піонэр альбо вучань, які зьбярэ і прышле ў красавіку, травені ці чэрвені ў кантору Выдавецтва „Чырвоная Зьмена" (Менск, Комсамольская, 25) 30 аднамесячных, ці 15 двохмесячных, ці 10 трохмесячных, ці 5 шасьцімесячных падпішчыкаў на часопісь „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР", атрымае адзін білет на права ўдзелу ў розыгрышы рэчаў.**

Таму, хто выйграе адну з паказаных сумаў, рэдакцыя часопісі высылае (па жаданьню выйграўшага) адну з наступных рэчаў: фотаапарат, радыёпрыёмнік, прылады для пераплётнай майстэрні, стрэльбу, бібліотэчку, пісьмовыя прылады, шахматы, шашкі, бюсты правадыроў, фарбы, настольныя гульні, лінейкі, алоўкі, блёк-ноты (па кошту выйгрышу).

Цана нумару 12 к.




## Задачы

### № 1

Нехта купіў 96 яблыкаў, плацячы за кожныя тры яблыкі па грыўні, а потым яшчэ 96 яблыкаў, плацячы за кожныя два па грыўні; усе гэтыя яблыкі ён прадаў, атрымаўшы за кожныя 5 яблыкаў па саракоўцы. Атрымаў ён прыбытак ці пацярпеў пройгрыш?

### № 2

На 16-ці паперках напішэце: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15 і 16. Потым паспрабуйце раскласьці іх па чатыры ў рад, па чатыры рады, так, каб сума па простых лініях была ў кожным радзе 34.

### № 3

Аднаму чалавеку вельмі спадабаўся ў гандляра конь, і, запытаўшы яго цану, ён праведаў, што гандляр жадае атрымаць: за першы цьвік у падкове каня 1 кап., за другі—2, за трэці—4, за чацьверты—8 і г. д., падвойваючы кошт кожнага цьвіка ва ўсіх чатырох падковах. Колькі ён захацеў за каня, калі кожная падкова прыбіваецца шасьцю цьвікамі?

### № 4

Ад 19 аднімеце адзінку так, каб атрымалася 20.

### № 5

Складзеце з лічбаў 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9 такія лікі, каб праз складаньне атрымаць роўна сто.

## Шарада

Тое, чым двор твой абгароджан,  
Агарод, малы садок—  
Стаў хутчэй наперадок:  
Першы склад зусім няслюжан.  
Ў альфабэце—другі склад.  
Як убачыш, стаў назад.  
А як ускрыецца рака,  
Ты ўсё цэлае там зловіш  
І на хлеб, і чарвяка.

М. Белякоўскі.

---



1-я Дзярж. друк. Зак. № 2127. Галоўлітбел № 25458.